Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 45 (4845) 13 лістапада 2015 г.



## Пункцірам

✔ Прэзентацыя інфармацыйна-мастацкага праекта «Замкі Беларусі: Мір — Нясвіж» адбылася ў Маскве ў Дзелавым і культурным комплексе Пасольства Беларусі ў Расіі. Мерапрыемства прымеркавана адразу да некалькіх дат: 70-годдзя ЮНЕСКА, 60-годдзя членства Беларусі ў гэтай арганізацыі, 15-годдзя ўключэння Мірскага замка і 10-годдзя ўключэння Нясвіжскага палацава-паркавага ансамбля ў Спіс аб'ектаў Сусветнай спадчыны ЮНЕСКА.

✔ У Нацыянальным гісторыка-культурным музеі-запаведніку «Нясвіж» праходзіць выстаўка «Баявыя нагалоўі засцерагальнага ўзбраення і харугвы беларускіх зямель XI — XVII стагоддзяў». У экспазіцыі прадстаўлены шлемы, даспехі, дзіды і харугвы — больш як 40 экспанатаў. Вянец экспазіцыі — рэканструкцыя шлема, які лічыцца страчаным. Гэта частка ўнікальнага даспешнага гарнітура Мікалая Радзівіла Чорнага, выробленага вядомым еўрапейскім майстрам Кунцам Лохнерам.

✔ Выстаўка скульптуры, керамікі і графікі (больш як 100 работ) Сальвадора Далі і Пабла Пікаса адкрылася ў Гомелі ў карціннай галерэі Г. Х. Вашчанкі. Наведвальнікам экспазіцыі прадставіцца рэдкая магчымасць параўнаць двух геніяў і супаставіць іх бачанне і думкі пра жанчын, карыду, гарачую Іспанію і інш.

✔ Двухдзённая Міжнародная навуковая канферэнцыя «Лістападаўскія сустрэчы — XI» распачалася ўчора ў Белдзяржуніверсітэце. Форум прысвечаны памяці заснавальнікаў кафедры гісторыі старажытнага свету і сярэдніх вякоў гістарычнага факультэта акадэмікаў Мікалая Нікольскага і Уладзіміра Перцава і прымеркаваны да святкавання 80-годдзя з дня стварэння гэтай кафедры.

✔ Музей Напалеона Орды адкрыўся на малой радзіме мастака і кампазітара ў вёсцы Варацэвічы Іванаўскага раёна. Тут калісьці знаходзіўся радавы маёнтак яго сям'і. Чатыры выставачныя залы раскажуць наведвальнікам пра жыццё і творчасць славутага земляка.

✔ Дрыбінскі гісторыка-этнаграфічны музей стане адзіным у краіне, дзе будзе прадстаўлены ўвесь працэс развіцця ўнікальнага рамяства — шапавальства. Урачыстае адкрыццё музея, які пасля рэканструкцыі значна зменіцца, адбудзецца ў снежні. Промысел, што прызнаны нематэрыяльнай гісторыка-культурнай каштоўнасцю Беларусі, будзе паказаны тут больш дэталёва і цікава. А стварыць умовы для захавання самабытнага духу старадаўняга рамяства дапамагла дзяржпраграма «Культура Беларусі».

✔ Студэнт Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Сяргей Мікель атрымаў Гран-пры і прэмію ў 100 тысяч расійскіх рублёў на міжнародным харэаграфічным конкурсе ў Грозным, дзе выступалі лепшыя маладыя танцоры з Расіі, Балгарыі, Грузіі, Грэцыі, Арменіі, Азербайджана і іншых краін.

ISSN 0024-4686
9 770024 468001 15045

# «Лістапад» — адкрыццё ўсіх межаў!

**Мінскі міжнародны кінафестываль «Лістапад» у дваццаць другі раз прайшоў у сталіцы. Галоўнай інтрыгай стаў прыезд знакамітай французскай актрысы, пачынаючага рэжысёра і проста чароўнай жанчыны — Фані Ардан. Не абышлося і без традыцыйных рытуалаў — разбіванне талеркі на шчасце, уручэння прэстыжных прэмій. Замест чырвонай дарожкі гасцей вечара парадаваў стыльны дызайнерскі «хіт-парад» модных убораў ад Мікалая Марозава, выстаўка кніг і фотаздымкаў пра кіно, выступ аднаго з лепшых джазавых скрыпачоў Беларусі Карэна Карапяцяна.**


*Фота БелТА.*

Госця фестывалю, французская актрыса Фані Ардан.




### ПОДЫХ ФРАНЦЫІ, ЦІ РЭНТГЕН КІНАМАСТАЦТВА

Адна з галоўных культурных падзей года прымеркавана да 120-годдзя сусветнага кінематографа, бо ў далёкім культавым 1895-м у тым самым парыжскім *Grand Cafe* на бульвары Капуцынак адбыўся першы ў гісторыі паказ фільма — дзякуючы вынаходлівым братам Люм'ер.

Сімвалічна, што менавіта Францыя праходзіць лейтматывам праз увесь фестываль — і справа не толькі ў Фані Ардан. Фільмам-адкрыццём кінафоруму стала карціна Гіёма Ніклу «Даліна кахання» з Жэрарам Дэпардзье і Ізабель Юпэр у галоўных ролях. Нядаўна фільм быў прадстаўлены ў асноўным конкурсе Канскага кінафестывалю. Гэта — гісторыя мужчыны і жанчыны, драма пра нечалавечыя страты, ахвяры і незгасальную ў сваёй моцы надзею, амаль містычная элегія на фоне меланхалічных каліфарнійскіх пустыняў.

Што тычыцца Фані Ардан, то яна прыехала ў Мінск са сваёй другой рэжысёрскай работай (першай карцінай у 2009 годзе стала драма «Прах і кроў») — фільмам «Навязлівыя рытмы», які апавядае пра крах усеабдымнага кахання, несапраўдную абаяльнасць ілюзій, пераасэнсаванне сябе і свету.

Цяперашні «Лістапад», паводле ацэнак крытыкаў і знаўцаў мастацтва, — гэта форум, арганізаваны на годным еўрапейскім узроўні, які дазваляе гледачам акунуцца ў атмасферу новых тэндэнцый і поглядаў у свеце кіно. Як на рэнтгене — убачыць усё, што схавана ад вачэй тых, хто аддае перавагу толькі лёгкай кінапрадукцыі, масавай культуры. Так, «Лістапад» будзе зразумелы не ўсім, але хто сказаў, што аўтарскае кіно — гэта забаўка? Глядач тут працуе нароўні са стваральнікамі фільмаў.

Фестываль праходзіць пад патранажам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, які ў сваім пасланні адзначыў, што «Лістапад» прадстаўляе шырокія магчымасці для актыўнага творчага дыялогу з прадстаўнікамі розных краін. «У нашай краіне прыкладаюцца значныя намаганні для захавання дасягненняў айчыннага кіно, яго развіцця і папулярызацыі ў свеце», — падкрэсліў беларускі лідар. Кіраўнік дзяржавы таксама выказаў надзею, што форум «і ў далейшым будзе служыць высакароднай справе сцвярджэння гуманістычных і маральных ідэалаў у сучасным кінамастацтве, умацаванню культурнага супрацоўніцтва паміж народамі».

Уладальнікам спецыяльнага прыза Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «За захаванне і развіццё традыцый духоўнасці ў кінамастацтве» на цырымоніі адкрыцця «Лістапада» стаў рэжысёр, народны артыст Расійскай Федэрацыі, старшыня журы конкурсу ігравога кіно Вадзім Абдрашытаў, які знаў такія стужкі, як «Слова для абароны», «Спыніце Пратапава!», «Парад планет», «Плюмбум, альбо Небяспечная гульня». У творчай біяграфіі Вадзіма Абдрашытава — залаты медаль Венецыянскага кінафестывалю, прыз Берлінскага кінафестывалю «Срэбны мядзведзь», прэміі «Ніка» і «Залаты Арол» і многія іншыя ўзнагароды.

Мінскі фестываль, дарэчы, прысвечаны памяці яшчэ адной важнай асобы ў кінамастацтве — гісторыка кіно, кінакрытыка і аднаго з найстарэйшых членаў каманды кінафестывалю Алы Бабковай, якая пайшла з жыцця 15 кастрычніка гэтага года.

Чытайце на стар. 13

У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# І маю радзіму нараклі Палессем...

Гомельскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі адзначыла 10-годдзе з дня заснавання. Па добрай завядзёнцы былі праведзены «Славянскія літаратурныя дажынкі-2015». Ва ўрачыстасцях бралі ўдзел літаратары з расійскага Таганрога і ўкраінскага Глухава.

Распачалося свята запальваннем свечак — Агню дружбы і братэрства — у Гомельскай абласной універсальнай бібліятэцы імя У. І. Леніна: ад Беларусі — Уладзімір Гаўрыловіч, ад Краснадарскага рэгіянальнага аддзялення Саюза пісьменнікаў Расіі — паэт Леанід Север, ад Міжнароднага саюза пісьменнікаў і дзеячаў мастацтва — паэт Анатоль Міроненка з украінскага Глухава.

Прывітаў літаратараў епіскап Гомельскі і Жлобінскі Стэфан, ён уручыў пераможцам літаратурнага конкурсу «Праваслаўе — мая надзея» дыпломы і памятныя падарункі. Уладыка адзначыў: «Не толькі Свяшчэннае Пісанне ўзнаўляе дух чалавека, але і добрае слова, добры верш, песня, цудоўнае апавяданне. Дай Бог, каб мы з вамі здолелі данесці праз Слова любоў да чалавека, да сваёй Айчыны...»

На літаратурных дажынках былі названы лаўрэаты абласнога літаратурнага конкурсу імя Кірылы Тураўскага.

Другі дзень свята прайшоў у Ельскім раёне. Сардэчна сустракалі нас заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь, начальнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі райвыканкама Валерый Гейхман і майстры мастацкай самадзейнасці краю. З адметнасцямі Ельскай зямлі пазнаёміліся ў краязнаўчым музеі райцэнтра і мясцовай бібліятэцы. У раённай кніжніцы нас чакала незвычайная выстаўка «Ельскі ручнічок». А ў Ельскай дапаможнай школе-інтэрнаце мы пабачылі... вышываныя кнігі і выстаўку выданняў пісьменнікаў рэгіёна.

**Тамара КРУЧЭНКА**

# Малавядомыя баі



Фота Марыі Вайцік.

*Выстаўку твораў Сяргея Каткова абмяркоўваюць Павел Гутэнка, Цуй Цымін і Святлана Каткова.*

Прэзентацыя дакументальнага фільма «Кітай. Засакрэчаная вайна» прайшла ў сталічнай гасцініцы «Пекін» у межах вечара памяці, прысвечанага 70-годдзю заканчэння Другой сусветнай вайны і ўдзелу беларусаў у кітайска-японскай вайне. Тут адкрылася і выстаўка работ айчыннага мастака, удзельніка кітайска-японскай вайны Сяргея Каткова.

Стужка знятая творчай групай праекта «Зваротны адлік» тэлеканала АНТ пры падтрымцы Пасольства Кітайскай Народнай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь летам гэтага года, прычым здымкі праходзілі і ў нашай краіне, і ў Кітаі. Аўтар сцэнарыя Наталля Голубева — кандыдат гістарычных навук, член Саюза пісьменнікаў Беларусі, сёлетні лаўрэат Нацыянальнай літаратурнай прэміі ў намінацыі «Драматургія». Рэжысёр фільма — Таццяна Краўчанка.

…Май 1945-га. Тысячы савецкіх салдат і афіцэраў вяртаюцца на радзіму. Адзін з іх — 35-гадовы франтавы фатограф Сяргей Каткоў, які планує зноў заняцца любімай працай — вучыць дзяцей маляванню. Але блізу Мінска нечаканая аб'яўляюць: у горадзе будзе толькі прыпынак, а пасля састаў працягне рух. Дадому нікога не адпусцяць.

Пасля возера Байкал салдаты зразумелі: эшалоны ідуць у напрамку мангольскай мяжы. А значыць, давядзецца ваяваць супраць Японіі, якая ўжо 8 гадоў вядзе вайну з Кітаем…

Разграміць японскую армію ўдалося толькі ўвосень 1945 года. Пяцёра нашых суайчыннікаў, якія ўдзельнічалі ў ваенных дзеяннях, сталі Героямі Савецкага Саюза. У кінастужцы ёсць кадры з удзелам кітайскіх і беларускіх гісторыкаў, кітайскага мастака Яа Чжыхуа, якому на пачатку кітайска-японскай вайны было ўсяго 5 гадоў, а яшчэ — аднаго з удзельнікаў баявых дзеянняў Паўла Гутэнкі, генерал-лейтэнанта ў адстаўцы, прафесара Акадэміі ваенных навук Расійскай Федэрацыі.

Падчас прэзентацыі падзяку ўдзельнікам фільма выказаў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Кітайскай Народнай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Цуй Цымін. Бралі слова і дзеці мастака — Аляксандр і Святлана Катковы, а таксама дырэктар Дэпартамента па архівах і справаводстве Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь Уладзімір Адамушка ды кіраўнік праекта «Зваротны адлік» Уладзімір Бокун. Прагучала і некалькі выдатных музычных нумароў у выкананні салісткі Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра Ганны Бяляевай і саліста фларэнційскага тэатра «Камунале» Уладзіміра Александровіча.

**Яна ЯВІЧ**

# Партнёрства ў час выклікаў

**VIII Форум еўрапейскіх і азіяцкіх медыя (ФЕАМ-2015) «Устойлівае партнёрства ў нестабільным свеце» прайшоў у Маскве.**

Удзел у аўтарытэтным прафесійным сімпозіуме, які па традыцыі арганізоўвае міжнароднае інфармацыйнае агенцтва «Расія сёння», бралі і кіраўнікі беларускіх масмедыя: старшыня Белтэлерадыёкампаніі Генадзь Давыдзька, генеральны дырэктар БелТА Дзмітрый Жук, дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч.

Падчас форуму абмяркоўваліся пытанні выклікаў і рызык у еўразійскай інфармацыйнай прасторы. Сярод тэм для абмеркавання супольнасцю з многіх постсавецкіх краін — змены палітычнай і эканамічнай канфігурацыі Еўразіі і адлюстраванне гэтых працэсаў у СМІ, інфармацыйны экстрэмізм, уплывы знешнерэгіянальных гульцоў на інфармацыйную прастору Еўразіі, меры па забеспячэнні інфармацыйнай бяспекі, СМІ як інструмент дыялогу на постсавецкай прасторы.

Сярод удзельнікаў, гасцей форуму — галоўны рэдактар сайта «РИА Новости Украина» Кірыл Вышынскі, шэф-рэдактар газеты «Казахстанская правда» Сабіт Малдыбаеў, генеральны дырэктар Цэнтра палітычнай кан'юнктуры (Расія) Сяргей Міхееў, намеснік галоўнага рэдактара газеты «Известия» Барыс Мяжуеў, дырэктар нацыянальнага інфармацыйнага агенцтва «Кабар» (Кыргызстан) Кубан Табалдзіеў. Галоўным мадэратарам з'яўляўся кіраўнік МІА «Расія сёння» Дзмітрый Кісялёў. Удзел у адной з дыскусійных пляцовак узяў празаік і публіцыст Аляксандр Прахнаў.

**Кастусь ХАДЫКА,**
**г. Масква, Расійская Федэрацыя.**

# Віталі празаіка. Беларускага і расійскага

**У Дзелавым і культурным комплексе Пасольства Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі віталі нашага земляка — вядомага расійскага і беларускага празаіка Алеся Кажадуба.**

І хаця ён даўно жыве ў Маскве, сваім мастацкім талентам служыць і Беларусі, роднай Ганцавіцкай старонцы, дзе зрабіў першыя крокі па жыцці. А гэтым лістападаўскім днём масквічы сабраліся на прэзентацыю новай кнігі Алеся Кажадуба — «Выпадак на Нікіцкай», якая пабачыла свет у вядомым выдавецтве «У Никитских ворот».

Як празаік, як унікліва ў сутнасць чалавечых стасункаў з навакольным светам літаратар, як тонкі мастак слова і разважлівы псіхолаг, член пісьменніцкіх саюзаў Расіі і Беларусі, Алесь Кажадуб адзначаны літаратурнымі прэміямі Міхаіла Шолахава, Івана Буніна, прэміяй Антона Дэльвіга «За вернасць Слову і Айчыне». Пачынаў Алесь Кажадуб пісаць па-беларуску, з першымі апавяданнямі выступаў у часопісе «Маладосць».

А яшчэ ў Беларусі добра ведаюць яго ўнёсак у прапаганду беларускай літаратуры са старонак «Литературной газеты». Газета ў газеце «Лад», якую выпускаў у «ЛГ» Алесь Кажадуб, для многіх сталася творчым мастом з Беларусі ў шырокі свет, найперш — у Расію, тыя краіны, дзе шануюць і ведаюць рускую мову. І цяпер наш зямляк вельмі шмат робіць для беларуска-расійскага літаратурнага супрацоўніцтва.

На прэзентацыі ў беларускім пасольстве пра творчасць Алеся Кажадуба шмат добрых слоў сказалі пісьменнікі і журналісты Віктар Пронін, Іван Сабіла, Любоў Турбіна, Міхаіл Папоў, Юрый Баранаў, Сяргей Казначэеў, Пётр Ладонщыкаў, Андрэй Варанцоў, Пётр Каліцін і іншыя сябры і ўважлівыя чытачы твораў нашага зямляка.

Нагадаем, што ў апошнія гады дзве кнігі Алеся Кажадуба — «Эліксір жыцця» і «Русь і Літва» — пабачылі свет у Мінску ў Выдавецкім доме «Звязда». Абедзве работы атрымалі добрыя водгукі і хутка разышліся з паліц кнігарняў.

**Сяргей ШЫЧКО**

# Традыцыя з Парыжа

Урачыстае абвяшчэнне прызёраў праекта «Восеньскі салон з Белгазпрамбанкам» і ўладальнікаў прэміі «Арт-Беларусь» прайшло у мінскім Палацы мастацтва. На працягу месяца побач з карцінамі знакамітых мастакоў — удзельнікаў парыжскіх «Восеньскіх салонаў» пачатку XX ст. — экспанаваліся работы маладых беларускіх творцаў, а таксама ладзіліся ўнікальныя адукацыйныя мерапрыемствы.

Выстаўку наведала больш як дзесяць тысяч чалавек, прычым кожны госць меў магчымасць паспрыяць лёсу ўпадабанага мастака — пазначыць прозвішчы двух аўтараў лепшых работ — прагаласаваць за лаўрэата «Прыза глядацкіх сімпатый». Уладальнікам прыза (больш за 20 працэнтаў галасоў) стала Алеся Скарабагатая — аўтар жывапісных кампазіцый з выдатнай рэалістычнай тэхнікай. Больш як тысяча наведвальнікаў падтрымалі жывапісца Васіля Пешкуна, палотны якога вяртаюць у свет беларускай вёскі. Пераможцам анлайн-галасавання стаў мастак-сцэнограф Сяргей Ашуха, які прадставіў свае аўтарскія лялькі і макет дэкарацый да оперы «Сон у летнюю ноч».

«Не існуе алгебраічных формул, каб вымераць узровень жывапісу, каб вымераць, як правіла, негарманічны ўнутраны свет мастака», — зазначыў дарадца старшыні праўлення Белгазпрамбанка Уладзімір Сажан. Тым не менш задачай аўтарытэтнага журы стала вызначэнне найбольш перспектыўных аўтараў, якія атрымалі прэмію на падтрымку прафесійнага развіцця. Уладальнікам «Вялікага прыза» стаў фотамастак Андрэй Лянкевіч «За гістарычна адказны падыход да стварэння твораў сучаснага мастацтва і ўнёсак у фарміраванне мастацкага асяроддзя». «Малы прыз» атрымаў Аляксандр Балдакоў «За арыгінальную работу з колерам у вобразнай прасторы сну».

Незалежнае міжнароднае журы, якое складалася з экспертаў сусветнага ўзроўню, было ўражана стылёвай і жанравай разнастайнасцю творчасці маладых айчынных аўтараў, таму вырашыла адзначыць спецыяльнымі дыпломамі яшчэ некалькіх удзельнікаў. Уладальнікамі дыпломаў сталі Анастасія Хобатава, Уладзімір Грамовіч і Паліна Амельяновіч.

Дырэктар Палаца мастацтва Аляксандр Зінкевіч адзначыў, што арт-праект «Восеньскі салон з Белгазпрамбанкам» стаў вельмі важным крокам у жыцці палаца, і выказаў спадзяванне, што правядзенне беларускіх восеньскіх салонаў ператворыцца ў традыцыю. Старшыня Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца падкрэсліў, што выстаўка стала прыкметнай падзеяй у мастацкім жыцці Беларусі і выказаў удзячнасць супрацоўнікам Белгазпрамбанка за прыемнае і канструктыўнае супрацоўніцтва. Па словах Уладзіміра Сажана, прадстаўнікоў банка прыемна здзівіла, што падчас выстаўкі-продажу 30 працэнтаў работ знайшлі сваіх пакупнікоў. Была дасягнута адна з галоўных мэт праекта — спрыянне фарміраванню айчыннага арт-рынку.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Адбітак на сэрцы

**Выстаўка скульптара Валерыя Калясінскага «Медалі, малюнак, манеты» памяці яго настаўніка, вядомага беларускага мастака, педагога, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны Алега Вікенцьевіча Луцэвіча, які даводзіцца далёкім сваяком Янку Купалу, адкрылася ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы.**

Валерый Калясінскі нарадзіўся ў Мінску, за плячыма скульпатра — вучоба ў магістратуры і аспірантуры Акадэміі мастацтваў, стажыроўкі ў творчых акадэмічных майстэрнях Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. З 2000 года — член Беларускага саюза мастакоў.

На выстаўцы Валерый Калясінскі прэзентуе калекцыю памятных манет Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь, адчаканеную з 2010 па 2015 год, а таксама пробныя экзэмпляры, якія выйдуць толькі ў наступным годзе. Прадстаўленыя медалі і манеты разнастайныя па тэматыцы. Асобныя серыі прысвечаны выбітным дзеячам культуры, навукі, мастацтва, спорту, архітэктурным помнікам, гістарычным юбілеям і значным падзеям нашай краіны, у прыватнасці Чэмпіянату свету па хакеі, Году моладзі, культурным сталіцам Беларусі (імі былі Нясвіж, Магілёў, Гародня), Славянскаму базару ў Віцебску, 250-годдзю з дня нараджэння Міхала Клеафаса Агінскага, 30-годдзю мінскага метрапалітэна. Гэтыя ўзоры беларускага медальернага мастацтва — выдатнае дапаўненне калекцыі памятных манет Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь.

Адметнасць выстаўкі — магчымасць прасачыць працэс стварэння манеты: ад эскіза да гіпсавага адбітка, штампа і канчатковага адчаканенага экзэмпляра. Пераважная большасць работ Валерыя Калясінскага адчаканена менавіта ў Беларусі, але, як прызнаўся сам скульптар, медалі ў нашай краіне выстаўляюцца ў музеях вельмі рэдка, бо няма неабходнага абсталявання, дый і самых манет выходзіць няшмат. Уздым гэтага мастацтва прыйшоўся на 1980-я гады. На пытанне, чаму заняўся менавіта медальерным мастацтвам, Валерый Калясінскі адказаў: «Зразумеў, што гэта патрэбна. Акрамя медалёў для Нацыянальнага банка, раблю асабістую калекцыю, тэматычна яны ніяк не парасякаюцца. Куды трапляюць гэтыя асабістыя медалі, на якія прыходзіцца выдаткоўваць вялікія сродкі? Шукаю калекцыянераў. Такія людзі знаходзяцца не толькі ў Беларусі, але і далёка за яе межамі. Асабліва радуе, што цяпер манеты сталі набываць і музеі. Зусім нядаўна музей Якуба Коласа набыў пяць медалёў з партрэтам паэта, дамовіліся аб продажы медаля з выявай Сымона-музыкі».

З цеплынёй і павагай Валерый Калясінскі ўзгадвае свайго настаўніка Алега Луцэвіча, якому і прысвяціў сваю выстаўку: «У жыцці сустракаеш мала людзей, якіх трэба слухаць і даверацца. Алег Вікенцьевіч быў менавіта тым чалавекам. Толькі паслухмяныя яго вучні дасягнулі поспехаў і ў Беларусі, і за мяжой».

Шырыню творчых зацікаўленняў Валерыя Калясінскага раскрываюць прадстаўленыя ў экспазіцыі малюнкі краявідаў Беларусі, выкананыя тушшу.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

# Ушанавалі земляка

Памяць Алеся Савіцкага, пісьменніка, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі, ганаровага грамадзяніна горада, ушанавалі на яго радзіме — у Полацку.

У цэнтральнай бібліятэцы імя Францыска Скарыны сустрэліся ўдзельнікі мясцовага літаб'яднання «Наддзвінне», бібліятэкары гарадскіх і раённых кніжніц, чытачы. Знакавую постаць пісьменніка-франтавіка, яго жыццёвы і творчы шлях узгадвалі сяброўка дзяцінства, заслужаны настаўнік Беларусі Ніна Азернікава, краязнаўца Віктар Карасёў, бібліятэкар Валянціна Крук і іншыя. У кожнага з выступоўцаў знайшліся чулыя словы на адрас Алеся Ануфрыевіча, шчырыя спачуванні родным і блізкім з нагоды цяжкай страты.

На сустрэчу з Мінска прыехалі сябар А. Савіцкага, паэт, ганаровы грамадзянін Полацка Навум Гальпяровіч, дачка Алеся Ануфрыевіча Наталля Аляксандраўна, унук Яўген. Падчас мерапрыемства прагучала прапанова надаць імя Алеся Савіцкага адной з бібліятэк горада.

**Вячаслаў ЛАКЦЮШЫН**

# Мары архітэктара

Гарадская мастацкая галерэя твораў імя Л. Д. Шчамялёва запрашае жыхароў і гасцей сталіцы наведаць выстаўку «Архітэктура як жыццёвая пазіцыя», прымеркаваную да 85-годдзя заслужанага архітэктара Рэспублікі Беларусь Юрыя Шпіта.



*Праект будынка кафэ «Рэтра» на вуліцы Пуліхава ў Мінску. 1990 г. Не здзейснены.*

У экспазіцыі прадстаўлены дакументы і фотаздымкі з фондаў Беларускага дзяржаўнага архіва навукова-тэхнічнай дакументацыі, якія адлюстроўваюць шматгранны прафесійны вопыт архітэктара. На фотаздымках можна ўбачыць як рэалізаваныя (манумент «Партызанам Вілейшчыны» на возеры Нарач, 1970 г., плошча Перамогі ў Віцебску, манумент «Воінам, партызанам і падпольшчыкам», 1974 г.), так і неажыццёўленыя праекты Юрыя Шпіта (праект будынка кафэ «Рэтра» на вуліцы Пуліхава ў Мінску, 1990-я гг., праект будынка аддзялення банка па вуліцы Цэнтральнай у горадзе Стоўбцы, 1990 г.)

Юрый Шпіт нарадзіўся 9 лістапада 1930 года ў горадзе Запарожжа. У 1954 годзе скончыў архітэктурны факультэт Кіеўскага інжынерна-будаўнічага інстытута, пасля пераехаў у Мінск, дзе творчая біяграфія майстра пачалася і працягнулася развіццём архітэктуры і горадабудаўніцтвам Беларусі. У ліку яго знакамітых праектаў — забудова квартала на скрыжаванні Ленінскага праспекта (праспекта Незалежнасці з 2005 года) і вуліцы Казлова, комплекс жылых і грамадскіх будынкаў па вуліцы Талбухіна, кінатэатр «Партызан» у Мінску. Таксама Юрыем Шпітам былі распрацаваны Дом Саветаў у Бабруйску, гасцініцы ў Бярэзінскім запаведніку і шэраг іншых аб'ектаў архітэктуры. За сваю творчую і грамадскую дзейнасць майстар адзначаны ордэнам «Знак Пашаны», граматамі Саюза архітэктараў СССР і Дзяржаўнай прэміяй БССР. У 2010 годзе таленавіты архітэктар пайшоў з жыцця.

Адкрыццё выстаўкі прайшло ў шчырай, цёплай атмасферы. У зале сабраліся сябры і калегі па цэху. Нельга не адзначыць шчырасць прывітальнага слова заслужанага архітэктара Рэспублікі Беларусь Юрыя Градава, які расказаў пра сумесную працу з Юрыем Васільевічам. Ён падкрэсліў, што праекты Юрыя Шпіта — гэта знак якасці і прэстыжу нашай краіны.

**Вікторыя АСКЕРА**

*Моладзь ідзе*

# Час пачынаць!

**Адкрыў новы сезон Народны літаратурны тэатр «Жывое слова», што ўжо не адно дзесяцігоддзе працуе ў Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка.**

Незвычайная канцэртная праграма «Мы пачынаем» для многіх акцёраў тэатра, кіраўнікі якога — Алесь Мойскі і Алеся Сівохіна, сталася дэбютнай. Са сцэны гучалі песні і вершы, акцёры прадстаўлялі цікавыя сцэнкі, у тым ліку са студэнцкага жыцця. Адным словам, яркая імпрэза з каларытнымі персанажамі!

А да таго, каб адкрыццё чарговага тэатральнага сезона сапраўды запомнілася, актыўна спрычыніліся студэнты факультэта беларускай і рускай філалогіі БДПУ імя Максіма Танка Маргарыта Навіцкая, Вераніка Бусел, Анатоль Глембоцкі і Ганна Суша, студэнтка факультэта спецыяльнай адукацыі гэтай жа ВНУ Наста Грыцкевіч, студэнтка Інстытута журналістыкі Белдзяржуніверсітэта Святлана Чыжык, першакурсніца Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта Марыя Андрэева ды іншыя.

**Яна ЯВІЧ**

# Парад прэм'ер

**Так назвалі паказ пяці прэм'ерных спектакляў новага сезона ў Гомельскім абласным драматычным тэатры.**

Ініцыятар навацыі — дырэктар тэатра Ірына Пыркова — распавяла: «Мы запрасілі вядомых крытыкаў, каб яны далі прафесійную ацэнку нашай працы. Гэта магчымасць развівацца і рухацца далей».

Шмат парад атрымалі артысты ад беларускага тэатральнага крытыка Людмілы Грамыка. Тэатразнаўца Таццяна Команава, намеснік дырэктара Маскоўскага драматычнага тэатра на Пяроўскай, адзначыла заўважнае імкненне да развіцця, з якім Гомельскі абласны тэатр настроены на новы творчы этап. На яе погляд, асабліва вылучаецца адзін з самых прыкметных у Беларусі за апошнія два гады спектакляў пра вайну — «Ён. Яна. Вайна» ў пастаноўцы Паўла Харланчука-Южакова. Цікава, што рэжысёр вырас у Гомелі і стаў майстрам менавіта ў гэтым тэатры, а цяпер надаў яму новае дыханне.

**Алена ПАРФІЯНОВІЧ**

## Памяці Алеся Ануфрыевіча САВІЦКАГА

**Заўтра спаўняецца 40 дзён, як сышоў у вечнасць выбітны празаік, ветэран Вялікай Айчыннай вайны Алесь Ануфрыевіч Савіцкі. Але застаецца з намі творчая спадчына пісьменніка. Жыве і памяць пра гэтага цудоўнага чалавека і творцу — у тым ліку ў сэрцах калег па пяры...**



Фота Кастуся Дробава.

### Аліна ЛЕГАСТАЕВА

***

*Адышоў, як ясны дзень,*
*Сонцалікі, сінявокі,*
*Па зямлі і па вадзе*
*Праз зіхоткія аблокі.*

*Праз віры юнацкіх сноў*
*І вайны пакутнай жахі,*
*Праз гарачы боль бінтоў,*
*Полымя смяротнай смагі.*

*Па сцяжынках партызан*
*І Нямеччыны дарогах*
*Адышоў наш ветэран*
*Да бязмернай ласкі Бога.*

*Там, на небе, у раі,*
*Як бывала на парадзе,*
*Стрэне ён сяброў сваіх —*
*За гады жыцця іх страціў.*

*Так зямлю сваю любіць,*
*Продкаў шанаваць парогі,*
*Гора з ёй і шчасце піць*
*Дадзена зусім нямногім.*

*Адышоў… Але не згас*
*Промень думкі каляровы.*
*І ляцяць, ляцяць скрозь час*
*Назаўжды жывыя словы.*

### Васіль МАКАРЭВІЧ

## Развітальнае

*Дзень дзвынкаў*
*Ледзяшамі як напарсткамі,*
*Блукаў сярод ігрушын-спарышоў.*
*Ціш праламіўшы крыкам, нібы парастак,*
*Ён над прыдзвіннем вымкнуў*
*І ўзышоў.*

*Калі углыб вякоў,*
*Што скрозь насłоены,*
*Нібы ў калодзеж, пільна зазірнуць, —*
*То карані — пабачым! — радаслоўнае*
*Да Еўфрасінні Полацкай*
*Вядуць.*

*Сабор Сафійскі,*
*Камсамол з іспытамі.*
*А век па-свойму ў дні вайны спытаў, —*
*Не ўсе і ў лютым пекле тое спыталі,*
*Што ён у партызанстве*
*Паспытаў!*

*У медсанбаце,*
*З пэўнай адаптацыяй,*
*Дзе ў ход ідуць ланцэтаў лемяшы,*
*Баяўся не хірургаў — ампутацыі*
*Агнём не раз кранутае*
*Душы.*

*Закідваў невад*
*З позіркам прымружаным,*
*Гады працэджваў праз яго і дні.*
*І родных слоў алмазы і жамчужыны*
*Выцягваў ён з бяздоннай*
*Глыбіні.*

*Быў да сябе*
*Ён строгі і бязлітасны,*
*Не меў адхлання нават і на міг.*
*Каціў эпоху пад гару скалістую,*
*Нібыта камень, клапатун*
*Сізіф.*

*Ён жыў, у одум*
*З галавой заглыблены,*
*Сягнуўшы за стагоддзяў берагі.*
*Турботы і трывогі сёння глыбамі*
*Стаяць, як сведкі, ля яго*
*Сцягі.*

***

*Адспявае восень лістападам,*
*Падарыўшы свята незямное.*
*Хутка і зіма сваім паглядам*
*Ахіне зямлю. І ўсё былое*

*Нам падасца прывідна-расстайным —*
*Каралюе сёння непазбежнасць.*
*Відавочнасць зноўку стане тайнай,*
*Ды яе схавае холад-снежнасць.*

*І пад гэтым покрывам маўклівым*
*Зноў саспее каліва вясны,*
*Кожны каб адчуў сябе шчаслівым,*
*Даглядзеўшы восеньскія сны…*

***

*Заблукаю я ў дажджы асеннім,*
*У шматгуччы ветранай самоты:*
*Мар маіх, напэўна, не звясеніць —*
*Застануся ў царстве адзіноты.*

*У рапсодыі маёй няма адхлання.*
*Чую рэквіем ссівелае лістоты,*
*Паміраю ціха без кахання*
*У эдэме — царстве адзіноты…*

***

*Згасае дзень. Бязмежнаму спакою*
*Ён паступова ўладу аддае…*
*Над ляхавіцкай Ведзьмаю-ракою*
*Ў тумане замак-прывід паўстае.*

*Нібыта рэха, ціхі покліч рога*
*Даносіцца праз плынь сівых вякоў.*
*Пад'ёмны мост. А да яго дарога*
*Уеццa па вадзе… Бы малако,*

*Туман паўзе, падсвечаны зарою,*
*Над ляхавіцкім замкам, над ракой.*

### Дзмітрый ПЯТРОВІЧ



*Варот не адчыніць. І замак-мроя*
*У ім знікае… Зноў паўсюль спакой…*

***

*Каханне першае — нібыта першы снег.*
*Бялюткі неруш можа упрыгожыць*
*Будзённасць вечную — і гэты жорсткі свет*
*Адразу страціць чорную варожасць.*

*І знікнуць межы часу й дабрыні —*
*Замест гадзінніка тады лічыць імгненні*
*Нам будзе сэрца. І здадуцца дні*
*Гадамі… А гады — нібыта цені:*

*Нябачна постаць іх і не чуваць іх бег…*
*І, як раней, я сёння зноў успомню*
*Каханне першае, нібыта першы снег,*
*І подых шчасця прывідна-няўлоўны…*

***

*Кудысьці зніклі хмары з паднябесся —*
*У безаблочна-чыстай сіняве*
*Шукае шлях свой самалёт. Прадвесня*
*Чакаем мы у восеньскай журбе.*

*Хай летуценяцца жаданні, быццам лісце,*
*Злятаючы ў пажухлую траву.*
*Ў душы зноў знікнуць хмары, і калісьці*
*Мы ўбачым без аблокаў сіняву.*

***

*Сапраўднае шчасце — паняцце не новае:*
*Каму гарадское, камусьці — вясковае.*
*Адным наймілейшыя транспарт і гмахі.*
*А іншым — прырода, хацін родных дахі.*

*Ды горад прыцягвае вёску даўно —*
*За гмахамі ўжо і палёў не відно.*
*А сам жа ірвецца на ўлонне прыроды —*
*Зрабіць хоць глыточак паветра свабоды!*

*Ды нельга забыцца пра факт нам адзін:*
*Мы родам усе з тых — вясковых — хацін…*



Фота Кастуся Дробава.

## Талака

*Калісьці ўсё рабілі талакою,*
*Усім сялом на вечныя вякі.*
*Гаворка апасля цякла ракою*
*Пра золата майстэрскае рукі,*

*Пра вастрыню касы перад пакосам,*
*Пра будучы багаты ураджай…*
*Ўсе — за сталом. Не-не й лілiся слёзы,*
*Калі гучаў гармонік-самаграй.*

*Ляцела песня птушкай над ракою.*
*І людзі верылі у лепшае тады.*
*Калісьці ўсё рабілі талакою…*
*Куды ж падзеліся шчаслівыя гады?..*

***

*Трымцелі сэрцы. Зорачкі дрыжалі*
*У Свіслачы вячэрняй, палахлівыя.*
*А нашы вусны грэшныя палалі…*
*Якія мы з табой былі шчаслівыя!..*

*Кляновы ліст. Нібы з календара*
*Майго юнацтва выпаў ён калісьці.*
*Халоднае святло ад ліхтара*
*Я помню ў парку. Мы ўдваіх. І лісце…*

*Яно шматколерным святочным дываном*
*Рассцелена пад нашымі нагамі.*
*З Нямігі спеў далёкае званоў*
*Даносіўся вянчальны… А над намі*

*Згушчаліся расстання хмары. Іх,*
*На жаль, з табою мы не заўважалі…*
*…У памяці застаўся гэты міг —*
*Як зорачкі у Свіслачы дрыжалі…*

## Дэбют

### Юрась ГАРНАСТАЙ



Нарадзіўся ў Гродне. Скончыў з залатым медалём сталічную гімназію № 32. Наведваў пасяджэнні літаратурнага гуртка «Малінаўскія галасы». Цяпер студэнт Гродзенскага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта. Друкаваўся ў гродзенскай раённай газеце.

***

*Я наведаў мясціны, амаль што святыя.*
*Там, высока, пад самымі нябёсамі шумяць дубровы.*
*Лета прыходзіць туды з усмешкай маёй маці,*
*А ў траскатні конікаў за ракой чуецца пульс Сусвету.*
*Але чаму не пазнаў у бабульцы з кіёчкам сваёй*
*першай настаўніцы Марыі,*
*Размінуўся на пустым гасцінцы з хроснай маці,*
*Не зачапіўшы яе нават словам?*
*Чаму да мляваcці ў каленках шукаў і нідзе не знайшоў*
*Светлавокую вайдэлотку сэрца майго?*
*Я наведаў мясціны, амаль што святыя...*

## Валасы маці

*Ты зараз носіш нешта пад карэ,*
*І скроні снежаць зімы, мама.*
*Ды й я з той павутой таксама*
*Ў валасах. Жыццё сваё бярэ.*

*Ты, як вясна, не страціла красы,*
*Ды ўсё трывожыць успамін хлапечы,*
*Калі твае аголеныя плечы,*
*Як вадаспад, хавалі валасы.*

***

*Добрая рэч памяць.*
*Яна, як вялікая рака, змяшчае гісторыю вялікага народа.*
*Зірні ў яе цудатворныя воды — і пабачыш*
*старажытныя ліцвінскія вежы, курган*
*Біруты, твары Ефрасінні, Скарыны, Максіма —*
*нашых асветнікаў і заступнікаў нябесных.*
*Затрымайся крыху — і позірк ахопіць велічныя*
*Храмы, узведзеныя на камянях паганскіх капішчаў.*
*І толькі самы пільны заўважыць крынічку,*
*старэнькую хату ды сцежку між імі —*
*пачатак усіх пачаткаў.*

# Балбатлівае акно

Стары цагляны дом колеру завялай кляновай лістоты з велізарным вуглавым акном... У гэтым доме калісьці жыла маленькая дзяўчынка, мая аднагодка. І я заўсёды хацела з ёй пасябраваць, таму што мне падалася шырокае акно ў яе хаце, якое нагадвала разгорнутую кнігу, або два празрыстыя велізарныя крылы, або цікаўны нос з вачыма-балконамі...

Гэтую вітрыну цяжка было зашморгнуць, з-за яе ў пакоі нельга было добра размясціць мэблю. Акно выдавала ўсе таямніцы сваіх жыхароў. Я тады думала, што такія вокны бываюць толькі ў казачных палацах, дзе ўсе жывуць весела і шчасліва і ім няма чаго хаваць. І гэта маленькая хацінка проста згубілася ў часе, яе хтосьці забыў тут тысячу гадоў таму. І вось цяпер у хатцы пасялілася маленькая прынцэса…

На падаконніку па абодва бакі сцяны дзяўчынка раскладвала мяккія цацкі і яркія кніжкі. На Новы год акно абрастала папяровымі сняжынкамі, і ў ім адлюстроўваліся агеньчыкі, што скакалі па ёлачнай гірляндзе. Восьмага сакавіка з'яўлялася новая цацка. Першага мая ля столі рознакаляровымі аблокамі боўталіся паветраныя шары... Я нават ведала, калі ў прынцэсы дзень нараджэння… Таму што на падаконніку ў гэты час хтосьці з жыхароў кватэры пакідаў сподачак з тонкімі свечкамі, запэцканымі тортам...

А потым я паступіла ва ўніверсітэт. І ў акне прынцэсы таксама



Таццяна ДЗЕМІДОВІЧ

зніклі ўсе цацкі. Падаконнік цяпер быў завалены сшыткамі і важкімі шэрымі кнігамі, а замест маленькага пакуначка з мультысадавінавым сокам стаяў кубак кавы. «Значыць, таксама паступіла», — парадавалася я.

Аднойчы перад Калядамі я заўважыла ў чужым акне сумёт. Ён узвышаўся над дзіўна-пустынным падаконнікам і, як мне здавалася, крыва ўсміхаўся. Мне было цікава: што гэтым разам выдумала прынцэса? Магчыма, пашыла пацешнага снегавіка або нядбайна шпурнула белую кофтачку? Але гэта быў вэлюм!

Акно старадаўняга дома неўзабаве ўсміхалася соскамі, бразготкамі, акуратна складзенымі ў стос памперсамі. Толькі гэта было зусім нядоўга.

І вось цяпер хатка зноў ззяе мяккімі цацкамі і дзіцячымі кніжкамі... Як тады, калі нехлямяжы дом зваліўся на маю планету, калі я ўпершыню заўважыла сваё адлюстраванне ў чужым акне. Сёння над хатай узвышаюцца будаўнічыя лясы, стары шыфер вырашылі замяніць на чарапіцу, а сцены — абтынкаваць. Але акно... Яго па-ранейшаму нічым не прыкрыць — непрактычна вялікае і праўдзівае.

І я нават ведаю, што праз некалькі гадоў зноў будуць падручнікі і недапітая кава. І мы з прынцэсай на цэлае жыццё старэйшыя. Лятучы дом носіцца ад адной планеты да другой, але ўсе таямніцы на маім Зямным шары ўжо разгаданы...

Здрадлівае балбатлівае акно!

# Унучка

*Бабулі, Шаўчук Ксеніі Паўлаўне, прысвячаю*

Вербы Брэсцкай крэпасці скрыжавалі погляды ў карычневай рачной каламуці і маўчаць... Маўчаць гадамі, нават стагнаць у іх няма сілы…

Памятаю, як дзяўчынкай гадоў пяці я чаплялася за іх доўгія рукі, хавалася пад зялёнымі шатрамі лістоты, а потым нясмела выглядвала, з цікаўнасцю назіраючы, як па плошчы да Вечнага агню крочаць маладыя хлопцы і дзяўчаты...

Бабуля цягнула мяне за рукаў, і я паныла плялася па спякоце да Холмскай брамы. Там, за крэпасцю, у бабулі быў агарод — і салатавыя конікі ў траве ў дуэце з балотнымі жабамі, і квітнеючая крапіва з асакой мне па пояс, і бзыканне камароў, ад якіх шчыкалаткі ў кроў, і бабуліна салодкая сакавітая цыбуліна з таннай сасіскай, а на дэсерт — гліністае печыва «Шахматнае» з газіроўкай «Бураціна»...

Я выцягвала на колкай траве ногі, часала шчыкалаткі і, падмяўшы пад галаву бабуліну кофту, прапахлую саспелымі трускаўкамі, часнаком і кропам, задзірала галаву ўгору, назіраючы, як разгойдваюцца на ветры цяжкія рыпучыя гамакі векавых дрэў. Я ніколі больш так высока ў жыцці не лётала! Пад самыя густыя малочныя выспы-аблокі з сінімі пражылкамі нябесных рэк...

І гэта быў мір... Я цяпер ведала, што ён сонечны, яркі, духмяны, як казытлівая ссохлая трава пад маімі каленкамі, дзіўна-салодкі, як першыя бабуліны клубніцы. А адтуль, з цэнтральнага ўвахода ў крэпасць, данослася трывожнае: «Идёт война народная, священная война...» Там было ўсё па-іншаму... Але калісьці... Пра гэта ведала толькі мая бабуля і тыя маўчунні-вербачкі.

А потым я вырасла... І абрывісты бераг ужо не здаваўся такім стромкім, а цёмная рака — глыбокай і шырокай. Свет звузіўся, але чамусьці стаў вышэйшым. І бегла я тады на сваё першае спатканне... Абдымала шурпатыя ствалы вербаў і зноў хавалася ў іх гушчары, мераючыся з імі косамі... У той момант мае вусны абпальвалі нясмелыя пацалункі... Бабуліны клубніцы ўжо не ўспаміналіся, а пра тое, што шэсцьдзясят гадоў таму хтосьці, такі ж юны, як мы, у надзеі дацягнуцца да рачной вады ў гэтым самым месцы хапаўся за пульсуючыя ад выбухаў каранівены цярплівых вербаў, наогул не думалася...

— Унучка, а ну-ка паднясі мне гэтую пластыкавую бутэльку!

Я выйшла з роздуму і азірнулася. Незнаёмая згорбленая нізенькая бабуля сядзела на лаўцы. Яна была апранута ва ўсё цёмнае, выцвілае, старое. Бабуля штурхнула мыліцай да маіх ног пустую бутэльку ад піва і паўтарыла:

— Унучачка, падымі-ка яе! Нядобра тут кідаць... Бачыш — чысціня, спакой...

Пластыкавая бутэлька закацілася пад лавачку, а бабулька заплюшчыла вочы і глыбока ўздыхнула.

Я паслухмяна апусціла бутэльку ў скрыню. З ракі пацягнула сырасцю, запахла балотам і гнілым бярвеннем. З кожным годам зарастае рака, сцягвае свае раны бінтамі-багавіннем, замуроўвае былы боль сухастоем... На закінутым у рачныя віры маленечкім астраўку трывожна кракнула качка, узмахнула крыламі і хутка апусцілася на ваду.

— Ты не ведаеш, што такое вайна, унучачка, а я памятаю! Мне ж ужо гадкоў дзевяноста пяць, — прамовіла бабуля. — Я вось раней сюды лёгка яшчэ прыходзіла, а ў гэтым годзе ледзь дайшла... Эх, сілы не тыя...

Бабуля зноў заплюшчыла бясколерныя вочы і паныла нешта заспявала сабе пад нос.

— Мама! Ты дзе?! — галасок-званочак разбіў цягучую цішыню. Гэта бегла мая дачка! Малая на ляту спрабавала сплесці вянок з дзьмухаўцоў, яе погляд быў чысты і наіўны, а ў кожны светлы завітак уплёўся праменьчык сонца.

Неўзабаве мы рушылі дадому. Я каціла дзіцячы ровар і ўвесь час азіралася назад... Мяне штосьці раздзірала... Вельмі важнае і зусім сумнае...

— Мама, гэтая бабуля такая старэнькая, што хутка паляціць на неба? Так, мама? — адчула мае думкі дачка.

— Паляціць! — прызналася я. І раптам сэрца зашчымела: здаецца, сёння мяне ў апошні раз назвалі ўнучачкай!

Ляцяць дні, крышыцца апаленая цэгла старой крэпасці, сыходзяць апошнія сведкі вайны, а разам з тым рассейваецца туманам наша юнацтва, белай карамельнай аблачынай сніцца далёкае дзяцінства!

Здароўя табе, чужая-родная бабуля!

# Жыццё ў пыласосе



Павел ДАРОХІН

Аспуршэт прачнуўся і заклапаціўся адным з тых недарэчных пытанняў, якія часам прыходзяць у галаву, кшталту таго, чаму самалёты не махаюць крыламі. Ён задумаўся, ці існуе жыццё ў пыласосе. Спярша звыкла пачаў шукаць адказ у інтэрнэце. Пошукавік прадказальна выдаваў парады, як выбраць пыласос, якое ёсць жыццё з пыласосам, что рабіць, калі пыласос зламаўся. Трапіўся, праўда, цікавы блог нейкай жанчыны, што распавядала, як яе маленькі сын настолькі палюбіў пыласос, што аднойчы нават прымусіў маці пайсці на шпацыр разам з гэтым прадметам побыту. Гэта было забаўна, але не зусім тое, што трэба.

Тады Аспуршэт стаў узгадваць дзяцінства. Яму чыталі адну казку нейкага сучаснага арабскага пісьменніка. Там у аднаго хлопчыка здарылася гісторыя з пыласосам, яго замкнулі ў якасці пакарання ў каморы, дзе стаяў пыласос. Ад няма чаго рабіць ён пачаў церці яго шурпатую паверхню. У выніку з'явіўся вогненны іфрыт і паабяцаў выканаць чатыры яго жаданні. Што там было далей, Аспуршэт узгадаць не змог. Але, ва ўсялякім выпадку, у казках у пыласосах могуць жыць духі. Узгадаліся таксама гарантыйныя чалавечкі Эдуарда Успенскага і яшчэ нейкія значна больш познія істоты. «Пылапузікі», — падумаў Аспуршэт. Гэта ўсё казкі наўпрост!

Аспуршэт вырашыў патэлефанаваць свайму сябру Шорлу, які лічыў, што ў кожнага мужчыны павінна быць вялікае чорнае драпавае паліто і што ўсе мы выйшлі з таго паліто, як крытычны рэалізм з гогалеўскага «Шыняля». Шорл пацікавіўся, якога тыпу яго пыласос. Аспуршэт адказаў, што пыласос — з мехам.

— Так, — мовіў Шорл, — у каго ёсць мех, у таго ёсць жыццё. Вось я, калі б не прывёз той зімою мех бульбы з вёскі, то, магчыма, і жыцця ніякага не было б! Так і з пыласосамі, відаць. Тое ж і з вадзянымі пыласосамі. Дзе вада — там жыццё. Вось у пыласосах кшталту «Цыклон» жыццё наўрад ці ёсць: ну што за жыццё ў нас, калі цыклон — так, хіба слота. Што да барбатажных, сепаратарных і пыласосаў з перагародкамі — то там жыццё калі і ёсць, то лепей і не было б — жах адзін.

— Так, а калі больш канкрэтна?

— Калі больш канкрэтна — ніхто не адкажа. А вось толькі калі без меха — то гэта ўсё ж не жыццё, так табе скажу, — адказаў Шорл і паклаў слухаўку.

Тады Аспуршэт вырашыў патэлефанаваць сваёй сяброўцы Раэкле. Раэкла распавяла пра сяброўку Віфу, якая часам казала: «Мой хлопец — як пыласос. І здаецца, я ў ім жыву».

Раэкла не магла зразумець, як гэта можа быць. Але аднойчы Віфа іх пазнаёміла, і Раэкла пачала цьмяна здагадвацца, як. А пасля той хлопец паехаў у камандзіроўку ў Дыялонх — толькі яго і бачылі.

— Дык як, па-твойму, ён мог быць пыласосам, у якім магчымае жыццё? — спытаўся Аспуршэт.

— Ды не, вядома, гэта яна ў якасці метафары сказала! Наўпрост грошы ён з яе смактаў, што твой пыласос, на ўсялякія там анлайн-гульні. Ды і выглядаў трохі падобна. Да пыласоса. Зрэшты, чужая душа — поцемкі, як кажуць. Вось толькі Віфа з тых часоў вельмі сумная і ні з кім на шпацыры не ходзіць.

Аспуршэт зразумеў, што і гэта памылковы след. Уключыў тэлевізар, каб злёгку развеяцца. Паказвалі палітычна-аналітычную перадачу. Тлусты дзядзька з сівымі скронямі, па ўсім відаць, адстаўны ваенны, распавядаў, што армія Лапаніі выкарыстоўвае ў баявых дзеяннях гіганцкія баявыя пыласосы. Паказалі і некалькі фотаздымкаў пыласосаў. «Каламутная справа з тымі баявымі пыласосамі, ды і нельга назваць экіпаж жыхарамі, ані па якой канвенцыі», — меркаваў Аспуршэт.

Тады ён надумаў звязацца па тэлепошце з вядомым у вузкіх колах аўтарам кароткіх паведамленняў Заўко з тым жа пытаннем. Адказ прыйшоў дастаткова хутка:

— Само грамадства з'яўляецца гіганцкім пыласосам, яно высмоктвае людзей быццам пыл, з людзьмі нібы нічога не адбываецца, паасобку яны застаюцца людзьмі, аднак у цэлым сваю сутнасць страчваюць — там, звонку, яны былі тонкім пластом на цвёрдай паверхні або часціцамі, што ззяюць у паветры ў пром-нях святла. Тут, унутры, яны звычайны бруд…

— Дзякуй, але ж гэта толькі вобразы, што, па сутнасці, не вырашаюць пытання, ці ёсць жыццё ў пыласосе.

— Гэтае пытанне надта філасофскае, вам да Іаву трэба.

Іаву адрозніваўся большай шырынёй думкі, чым Заўко. Ён растлумачыў, што па сутнасці сваёй жыццё само ёсць метафізічны пыласос, што прапускае праз сябе манады чалавечых жыццяў, аднак змяняецца толькі знешняя абалонка. Субстанцыйна ж яны так і застаюцца пылам, што знутры, што звонку. І што гэты трансцэндэнтальны пыласос, па сутнасці, вобраз вечнага колазвароту жыцця і смерці, а трапленне ў такі пыласос, праход праз трубу, доўгі тунэль без промня святла напрыканцы і, нарэшце, трапленне ў замкнёную прастору адлюстроўваецца ва ўяўленнях у міфалогіі і ў многіх рэлігіях пра нейкае тагасветнае. Такім чынам, пыласос у дадзеным выпадку выступае як сінонім пекла, Тартара або шэола. Але, паколькі пыл ёсць пыл, можна спакойна казаць пра жыццё як па-за пыласосам, так і ўнутры пыласоса, сутнасці справы гэта не змяняе, варта толькі прыбраць паняцце пыласоса як штучны — і розніцы няма ніякай, і ў такім выпадку...

— Лухта сабачая! — сказаў Аспуршэт і выйшаў з сецыва.

Стала сумна. Пачало вечарэць. Аспуршэт выйшаў на вуліцу. Маленькі хлопчык засяроджана чарціў нешта вярбовым дубчыкам на пяску. «Вось, — падумаў Аспуршэт, — чыстае юнае сэрца, якое не турбуюць цяжкія дарослыя пытанні пра тое, хто жыве ў пыласосе...»

І ён спытаў хлопчыка:

— Скажы-ка, братка, а ці не ведаеш ты, хто жыве ў пыласосе?

— Вядома, ведаю. Шмат хто! Напрыклад, *Dermatophagoides*!

# «Паэзія не змест, у ёй душа...»

**Часта даводзіцца чуць меркаванне, што сучасныя беларускія паэты не імкнуцца развіваць традыцыі нацыянальнай літаратуры, займаюцца танным эксперыментатарствам, якое нікога не цікавіць і не патрэбна чытачу. Але не ўсё так сумна! Калі пільна сачыць за літаратурным працэсам, то абавязкова пашанцуе сустрэць і якасны верлібр, і цікавы рыфмаваны верш. Так, усіх аматараў традыцыі прыемна здзівяць выдадзеныя сёлета паэтычныя зборнікі «Зірні ў люстэрка» Анатоля Дэбіша і «Чуйнар» Васіля Дэбіша.**

## ТРАДЫЦЫЯ?

Якія вершы адпавядаюць беларускай літаратурнай традыцыі, а якія не — складанае пытанне, на якое кожны адказвае па-свойму (калі наогул вылучаюць яго падчас разваг пра мастацтва слова). Верагодна, традыцыйны для нашай літаратуры верш, па-першае, мае рэгулярную рыфму і рытм, а па-другое, напісаны вобразнай, дастаткова паэтычнай мовай. Да таго ж верш павінен быць па-майстэрску зроблены і мусіць выяўляць калі не талент аўтара, то прынамсі яго натхненне і наяўнасць літаратурных здольнасцей. Калі гэтае азначэнне не выклікае пярэчанняў, то вершы Васіля і Анатоля Дэбішаў — выдатны прыклад наследавання нацыянальнай традыцыі. Часам і ў гэтых аўтараў сустракаюцца верлібры ды своеасаблівыя беларускія хоку, але змяняць жанр, як і змяняць стыль, спрадвеку карысна кожнаму творцу. Зрэшты, жанр і стыль зусім не галоўнае ў мастацтве:

*Святую Біблію чытаць*
*бясконца можна.*
*«Месія», «пакаянне», «Бог»,*
*«любоў» —*
*Дзясяткі прачытае хтось*
*разоў,*
*І новы сэнс штораз у слове*
*кожным.*
*Так вершы. Прачытаў іх —*
*і спярша*
*Задумайся над тым, што*
*ў словах гэтых.*
*Паэзія не змест, у ёй душа*
*Біблейскага самотніка —*
*паэта.*

(В. Дэбіш)

## РАЗАМ

Анатоль Дэбіш і Васіль Дэбіш ужо маюць некалькі паэтычных зборнікаў, прычым іх дэбютныя кнігі таксама выйшлі адначасова — дваццаць два гады таму. Сітуацыя, калі блізкія сваякі маюць аднолькавую сферу зацікаўленняў, не дзіўная для літаратуры. Следам за нашаніўцам Змітраком Бядулем спрабаваў сябе ў паэзіі яго малодшы брат Ізраіль Плаўнік. Сёння над гістарычнымі раманамі працуе Пётр Чыгрынаў — брат народнага пісьменніка Беларусі Івана Чыгрынава. Гэты шэраг можна доўга працягваць — але цікава, што Васіль і Анатоль Дэбішы не толькі выдаюць зборнікі ў адзін год, але і нарадзіліся ў адзін дзень — 22 ліпеня 1962 года.




> *Вершы Васіля і Анатоля Дэбішаў — выдатны прыклад наследавання нацыянальнай традыцыі. Часам і ў гэтых аўтараў сустракаюцца верлібры ды своеасаблівыя беларускія хоку, але змяняць жанр, як і змяняць стыль, спрадвеку карысна кожнаму творцу.*

Творчасць абодвух паэтаў таксама вельмі блізкая: «Чуйнар» і «Зірні ў люстэрка» чытаюцца як кнігі аднаго аўтара, напісаныя ў розны час. Блізкі светапогляд, аднолькавыя жыццёвыя прынцыпы і прыярытэты, тоесныя творчыя ўстаноўкі... Вядома, гэта можна заўважыць і ў творчасці аўтараў, якія належаць да адной літаратурнай школы, але вершы братоў Дэбішаў таксама адметныя сугучнасцю паэтычнай мовы і блізкай настраёвасцю. У дадатак тут супадаюць многія тэмы і вобразы — напрыклад, чужы лірычнаму герою Брэст супрацьпастаўляецца вясковаму вольнаму свету, больш натуральнаму і каштоўнаму. Часам падаецца, што кнігі перамаўляюцца між сабой, удакладняюць адна адну, аб нечым спрачаюцца альбо, наадварот, дапамагаюць пашырыць сэнсавае поле асобных твораў. Зборнікі Васіля і Анатоля Дэбішаў падобныя нават па структуры: тут адсутнічае прадмова, першы раздзел прысвечаны Айчыне, Богу і роднай мове, а вершы пра каханне ўтвараюць асобныя часткі...

Паэзія братоў Дэбішаў уражвае перш за ўсё натуральнасцю і нязмушанасцю — нібыта Васіль і Анатоль ад нараджэння надзеленыя адмысловай паэтычнай мовай і ў час натхнення словы лёгка кладуцца на пэўны вершаваны памер. Пры гэтым аўтары не прапускаюць у радок надакучлівыя штампы, якія так і просяцца на язык да многіх паэтаў. Не даводзіцца казаць пра эксклюзіўнасць кожнага вобраза: дзяўчына ў сукенцы дажджу ці святла, вясновы сад як абавязковае месца сустрэчы закаханых — усё гэта ўжо было, але не назаляе. Трэба адзначыць і сапраўдную беларускую мову, якую не давялося атрымаць у спадчыну «дзецям асфальту», і магчымасць зноў адчуць магію паэтычнага памеру: ямб, амфібрахій, анапест... Да таго ж вершы братоў Дэбішаў напісаныя паводле класічнай формулы — думка-пачуццё, выяўленыя праз мастацкі вобраз:

*Слабейшы я за мураша,*
*Што час і лёс нясе на спіне*
*І ў бітве, у няроўнай, гіне...*
*Слабейшы я за мураша.*
*Як кволы снег: у пяску і гліне —*
*Мая растворыцца душа.*
*Слабейшы я за мураша,*
*Што час і лёс нясе на спіне.*

(А. Дэбіш)

## КРЫХУ САМОТЫ

Кнігі братоў Дэбішаў шмат у чым падобныя, але адрозненняў таксама нямала. Калі спадар Анатоль па тэмпераменце падаецца меланхолікам, то спадар Васіль — хутчэй флегматык, які больш спакойна глядзіць і на перыпетыі гістарычнага лёсу Беларусі, і на адвечную праблему смерці. Самыя сумныя вершы В. Дэбіш змяшчае напрыканцы кнігі: тут лірычны герой застаецца сам насам з вечнасцю і непазбежнасцю сыходу, таму стыне душа, навокал пуста, яблыкі ў садзе прагорклі і ў твар сыплецца халодны, калючы снег.

> *Аднатонная беларуская маркота, з якой даводзіцца сутыкацца ў кожным другім вершы, не вельмі натхняе чытача. Усцешваюць выпадкі, калі аўтар выяўляе вынаходлівасць і выходзіць на нейкую арыгінальную тэму.*

Анатоль Дэбіш з самага першага верша нагадвае пра недасяжнасць мрояў, непрывабнасць жыцця, слабасць ды адзіноту чалавека і, вядома, vanitas vanitatum... Хай сабе гэтыя творы вытанчаныя і гарманічныя, аднатонная беларуская маркота, з якой даводзіцца сутыкацца ў кожным другім вершы, не вельмі натхняе чытача. Усцешваюць выпадкі, калі аўтар выяўляе вынаходлівасць і выходзіць на нейкую арыгінальную тэму: крытычна апісвае ранішні Менск, уяўляе сустрэчу з вядомым паэтам Берасцейшчыны Міколам Купрэевым, стварае баладу пра бацькаў кажух — адвечны напамінак у старой хаце. Патрэба выказаць сваю засмучанасць натуральная для кожнага паэта, але для чытача больш карысныя тыя вершы, якія надаюць духоўнай моцы. Таму выдатным сюрпрызам для тых, хто гартае кнігу Анатоля Дэбіша, будзе другі раздзел, дзе аўтар нарэшце адкідвае цёмны плашч адвечнага самотніка...

## УЗНЁСЛАЕ

Вершы А. Дэбіша, прысвечаныя каханню, выяўляюць класічную вышыню пачуцця. Тут усё сур'ёзна і ўзнёсла, што крыху нязвыкла для нашага часу і вяртае ў эпоху Шэкспіра ці прынамсі ў 20-я гады мінулага стагоддзя — туды, дзе Купала, Дубоўка, Жылка. У творах Васіля Дэбіша больш эратызму, але ў абедзвюх кнігах маецца нямала твораў, якія абавязкова павінны гучаць у пакоі, напоўненым пяшчотай і мяккім святлом свечкі. Вядома, чытаць іх будзе мужчына, а жанчына — зачаравана слухаць... Праўда, жорсткія радкі таксама ёсць — пра час, расчараванне, салодкую ману:

*Асляплены сонцам, заўзята*
*Нектар п'ю жаночага цела.*
*Хлушу я... А хіба сама ты*
*Падманутай быць*
*не хацела?!.*

(В. Дэбіш)

Ёсць у братоў Дэбішаў і некалькі іранічных вершаў, якія гарантавана ўздымуць настрой. Цікава, што некалькі з іх былі натхнёныя адпачынкам на беларускіх пляжах.




Трэці раздзел кнігі — «Зірні ў люстэрка» — будзе карысны ўсім, каму даводзіцца размаўляць з дзецьмі пра беларускую міфалогію. Героямі твораў робяцца Лёля, Лада, Дажбог, славуты князь Вітаўт, які трымаецца веры продкаў. Вершы, прысвечаныя Радзіме і мове, будуць сугучныя роздумам усіх, хто наогул часам гартае беларускія кнігі. Абодва аўтары неаднойчы згадваюць сваіх папярэднікаў — як класікаў, так і найбліжэйшых да нас па часе паэтаў. Адсюль алюзіі на Купалу ды Багдановіча, вершы-прысвячэнні, радкі вядомых твораў у якасці эпіграфаў. Зборнік Васіля Дэбіша «Чуйнар» праз аднайменны верш фактычна прысвячаецца паэтэсе-«чуйнарцы» Ніне Мацяш.

Багата ў братоў Дэбішаў і твораў на біблейскія сюжэты, герой якіх часцей за ўсё Хрыстос. Асабліва цікавымі для супастаўлення падаюцца драматычная паэма Васіля Дэбіша «Вяртанне» і містэрыя Анатоля Дэбіша «Уваскрэсенне Іуды». Творы будуюцца на адвечных супрацьпастаўленнях: дабро і зло, сумленнасць і нізкасць, свабодалюбства і прыстасаванства... Адпаведна, з'яўляюцца фігуры, якія стаяць на баку святла і цемры. У В. Дэбіша гэта класічныя вобразы Хрыста і спакушальніка-Чорта, прычым прагматычны Чорт, як заўсёды, выглядае разумнейшым за рамантыка і ідэаліста Хрыста. Містэрыя А. Дэбіша мае больш складаны сюжэт, і паэтам-праўдашукальнікам паўстае не Хрыстос, а Іуда, які апынаецца ўдвая больш трагічным персанажам.

> *Вершы А. Дэбіша, прысвечаныя каханню, выяўляюць класічную вышыню пачуцця. Тут усё сур'ёзна і ўзнёсла, што крыху нязвыкла для нашага часу і вяртае ў эпоху Шэкспіра ці прынамсі ў 20-я гады мінулага стагоддзя — туды, дзе Купала, Дубоўка, Жылка.*

Вершы на біблейскія сюжэты імпануюць і журботна-светлым настроем, і традыцыйна-хрысціянскім падыходам да выяўлення падзей:

*Выйшлі ў сад Гефсіманіі,*
*што за Кедронам,*
*Ён на вучняў зірнуў*
*і прыцішыў свой ход.*
*І маліцца пачаў пад вярбою*
*схілёнай*
*За Радзіму і свет, за сябе*
*і народ.*
*Ясны месячык ззяў*
*з неабсяжных нябёсаў.*
*Хмарка лебедзем па-над ракой*
*праплыла.*
*І прамовіў Ісус: «Свет наяве*
*дзівосны...*
*Каб мяне абмінуць тая*
*чара магла!»*

(В. Дэбіш)

Чым могуць прывабіць такія вершы? Тут няма правакацыі, задзірлівасці, эпатажу, аўтар шчыры і душэўны, таму яго творы індукуюць узнёсла-паэтычны настрой і сцвярджаюць, што натхненне такі здараецца! Цяжка напісаць больш за 200 старонак бездакорных твораў, таму крытычныя заўвагі таксама могуць знайсціся. Напрыклад, раздзел В. Дэбіша, прысвечаны каханню, можна было б скараціць на некалькі грубаватых вершаў, якія не маюць асаблівай мастацкай значнасці, але разбіваюць увесь рамантычна-казачны настрой. Але: пры знаёмстве з новым паэтычным зборнікам часта падаецца, што рэдактар мог быць больш патрабавальным і выкрасліць немалую частку твораў. У выпадку братоў Дэбішаў сумневы наконт вартасці вершаў узнікаюць надзвычай рэдка: следаванне традыцыі не ператвараецца ў пустое эпігонства, бо ў абодвух зборніках прынамсі адчуваецца душа.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Міхаіл Міхайлавіч, князь Мышкін

**Сярод іншых займальных фармулёвак, з якімі даюць Нобелеўскую прэмію па літаратуры, ёсць цяпер і такая: «за шматгалосае гучанне твораў». А поліфанічны раман — такая з'ява, пра якую ведаюць нават не самыя старанныя студэнты філалагічных факультэтаў. У нас ёсць падстава ўзгадаць чалавека, імя якога звязана з распрацоўкай тэорыі поліфанічнага рамана: сёлета спаўняецца 120 гадоў з дня нараджэння Міхаіла Міхайлавіча Бахціна.**



*М. М. Бахцін. Фота пачатку 1920-х гадоў.*

## ДВОЙЧЫ АДКРЫТЫ, УРАТАВАНЫ

Лёс яго даволі тыповы для прадстаўніка той часткі інтэлігенцыі, якая выбрала сферу інтэлектуальнай дзейнасці яшчэ ў дарэвалюцыйны час і ўвайшла ў новае савецкае жыццё з вызначанымі крытэрыямі культурных каштоўнасцей, разумела рэвалюцыю перадусім як рэвалюцыю духу.

Умацаванне новай улады сталася часам руйнавання ілюзій, пачаткам эміграцыі, у тым ліку ўнутранай. Міхаіл Бахцін успрымаў унутраную эміграцыю як вымушаную і часовую. Але яна зрабілася ладам яго жыцця. Ужо на пачатку творчай біяграфіі М. Бахцін быў абмежаваны ў інтэлектуальнай актыўнасці колам аднадумцаў: спачатку — у павятовым горадзе Невель Віцебскай губерні, потым — у Віцебску і Петраградзе. Напрыканцы 1920-х гадоў, калі дзяржава ўжо імкнулася татальна кантраляваць інтэлектуальную сферу, ён спрабаваў абнародаваць свае навуковыя ідэі. Як вынік — у 1929 годзе М. Бахцін асуджаны па крымінальнай справе аб удзеле ў антысавецкай контррэвалюцыйнай арганізацыі на высылку і правёў большую частку астатняга жыцця ў далёкіх Кустанаі і Саранску. На працягу больш як 30 гадоў ён практычна не меў магчымасці друкавацца, і да самага 1963-га былі апублікаваныя ўсяго некалькі яго артыкулаў.

«Адкрылі» М. Бахціна на Захадзе. Яго кніга «Праблемы творчасці Дастаеўскага», выдадзеная невялікім накладам у 1929 годзе і ў якой на прыкладзе твораў класіка распрацаваныя тэарэтычныя палажэнні канцэпцыі літаратурнай поліфаніі, была заўважаная ў навуковым свеце.

Першапачатковы поспех кнігі можна патлумачыць сусветнай цікавасцю да Дастаеўскага. Але сярод іншых даследаванняў яго творчасці работа М. Бахціна вылучалася арыгінальнымі ідэямі. Да ўсяго, сама яе публікацыя — шчаслівы выпадак. Як патлумачыць тое, што даследаванне вучонага, які знаходзіўся пад крымінальным следствам, было надрукавана, а не знішчана?.. М. Бахцін атрымаў да 5 гадоў зняволення ў Салавецкім лагеры, ад якога быў вызвалены дзякуючы намаганням жонкі, блізкіх сяброў, дрэннаму стану здароў'я і… выдадзенай кніжцы. У гісторыі савецкай навукі ёсць падобныя выпадкі — філосафа Аляксея Лосева ці філолага Дзмітрыя Ліхачова.

Новае «адкрыццё» М. Бахціна, які на пачатку 1960-х быў перавыдадзены і раптоўна «знойдзены» ў правінцыяльным Саранску, падаецца сапраўдным цудам. Вяртанне яго пачалося з перавыдання кнігі пра Ф. Дастаеўскага. Даводзілася шматразова паўтараць думку пра тое, што ідэі М. Бахціна — сусветна значны здабытак, гэта больш чым літаратуразнаўства, гэта ідэі філасофіі дыялагізму, якія прадвызначылі развіццё сусветнай гуманітарнай навукі XX стагоддзя.

## БАХЦІН І ВІЦЕБСК

Міхаіл Міхайлавіч звязаны з Беларуссю, Віцебшчынай і Віцебскам пачатковым этапам сваёй навуковай біяграфіі. У Невелі, а потым і ў Віцебску, склаўся гурток аднадумцаў, які сёння мае прызнаную назву «кола Бахціна». У склад гуртка ўвайшлі прадстаўнікі навуковай інтэлігенцыі, якія воляй рэвалюцыйных падзей апынуліся ў правінцыі. Большасць з іх засталіся суразмоўцамі М. Бахціна на многія гады. Многія так і не «ўпісалася» ў новую сістэму, не зрабілі кар'еру.

Сярод іх трэба асобна вылучыць Мацвея Кагана, які атрымаў да пачатку Першай сусветнай бліскучую адукацыю ў Германіі, абараніў дысертацыю па філасофскіх навуках, стаў перакананым прыхільнікам філасофіі неаканціянства.

Яшчэ адным старэйшым сябрам Бахціна быў Леў Пумпянскі. У Невелі яны разам з Каганам сталі арганізатарамі гуртка, што існаваў цягам 1918 — 1920 гг. Да іх далучыліся Барыс Зубакін, Валянцін Валошынаў, Марыя Юдзіна. М. Бахцін на той час толькі пачынаў настаўніцкую дзейнасць, а вопыту навуковай працы наогул не меў. Але калегі прызнавалі ў ім нефармальнага лідара, у думках якога набывалі афармлены выгляд іх уласныя ідэі і меркаванні.

Дзякуючы намаганням Льва Пумпянскага Міхаіл Бахцін у верасні 1920-га быў абраны на пасаду прафесара гісторыі замежнай літаратуры Віцебскага інстытута народнай адукацыі. Перыяд яго жыцця з восені 1920-га да лета 1924 года звязаны з працай у Віцебскім педагагічным інстытуце, Віцебскім мастацкім вучылішчы і кансерваторыі.

**Чытайце на стар. 8** ▶

# Літаратурнае пабрацімства




Кніга з лаканічнай і сэнсава важкай назвай «Братэрства» (Мінск, 2014) створаная даследчыкам беларускай літаратуры і міжнацыянальных літаратурных сувязей, пісьменнікам-краязнаўцам Алесем Карлюкевічам.

У першых раздзелах («Аб шматколернасці гаварыце…», «Да месца, дзе нарадзіліся…») сцісла выкладзеная, па сутнасці, цэлая праграма актывізацыі ўзаемадзеяння паміж літаратурамі. Уважліва аглядаючы ўжо здзейсненае, аўтар засяроджвае ўвагу на тым, што яшчэ магчыма ажыццявіць у гэтым напрамку. Не абыходзіць увагай і тое, што робіцца менавіта сёння. Як прыклад — выданне аднаго з твораў Францыска Скарыны на мовах свету да юбілею беларускага кнігадрукавання ў 2017 годзе.

Кожны раздзел у кнізе «Братэрства» прысвечаны стасункам з асобнай нацыянальнай літаратурай. Геаграфія досыць сур'ёзная: Расія, Азербайджан, Аўстралія, Балгарыя, В'етнам, Грузія, Казахстан, Кітай, Літва, Польшча, Таджыкістан, Туркменістан, Украіна, Чарнагорыя. Раздзел, у якім вядзецца гаворка пра ўзаемасувязі з літаратурамі Расіі, найбольш аб'ёмны — не толькі праз шматстайнасць кантактаў, але і таму, што закранаюцца літаратуры многіх народаў Расійскай Федэрацыі. Увагу найперш прыцягвае матэрыял, які датычыць малаведамых старонак беларуска-іншанацыянальных літсувязей — з бурацкай, дагестанскай, калмыцкай, чачэнскай, чувашскай, удмурцкай літаратурамі.

Характэрная адметнасць кнігі — зварот да ўзаемадзеяння літаратур, што ажыццяўляецца праз непасрэдныя адносіны паміж пісьменнікамі, перакладчыкамі, выдаўцамі. Арыентаванасць на асабовыя стасункі выяўляецца ў значнай колькасці інтэрв'ю, якія А. Карлюкевіч праводзіць з прадстаўнікамі розных літаратур. Пытанні, што задае аўтар сваім суразмоўцам, скіраваныя перадусім на тое, каб выявіць іх стаўленне да беларускай літаратуры, паказаць рэальна бачныя вынікі творчага ўзаемадзеяння, раскрыць патэнцыял супрацоўніцтва.

«Братэрства» выяўляе абсяжны свет міжлітаратурных стасункаў, дае магчымасць убачыць пэўныя тэндэнцыі і акрэсліць перспектывы развіцця творчых сувязей. Тое, што робяць перакладчыкі, выдаўцы, набывае яшчэ большае значэнне, калі прыняць пад увагу ўмовы, у якіх знаходзіцца сёння літаратура, якое месца займае ў сучасным грамадстве. З размоў з прадстаўнікамі розных нацыянальных літсупольнасцей вынікае, што ўмовы для развіцця літаратуры ў наш час нельга назваць надта спрыяльнымі. Чытач можа пераканацца, што паўсюль назіраецца змяншэнне папулярнасці мастацкага слова, ягонай вагі ў культурнай прасторы. Красамоўна сведчыць пра гэта прыкметнае скарачэнне накладаў кніг і перыядычных выданняў, пра што згадваюць многія суразмоўцы. Праўда, у нашым выпадку гэта гучыць як аб'ектыўная канстатацыя, а не марныя нараканні на лёс.

Усе намаганні творчых асоб, прадстаўленых на старонках «Братэрства», скіраваныя якраз на тое, каб і ў такіх няпростых абставінах і нават насуперак ім, ствараючы мастацкія і духоўныя каштоўнасці, садзейнічаць культурнаму збліжэнню і паразуменню народаў.

**Яўген ГАРАДНІЦКІ**

# Песні па дарозе ў восень

**Талент усё сваё жыццё бескарысліва аддае сілы, веды, розум і час людзям. Нягледзячы на педагагічную занятасць, вершаваных твораў у Галіны Бабарыка набралася на два змястоўныя зборнікі. Першая кніга «Давер» пабачыла свет у 2004 годзе і выйшла з Пінскай рэгіянальнай друкарні. Цяпер жа ў маіх руках — «Дарога ў восень», выдадзеная сёлета якраз напярэдадні гэтай паравіны года ў брэсцкай друкарні «Альтэрнатыва».**




Вершы спадарыня Галіна, як і многія аўтары, пачала пісаць яшчэ са школьных гадоў. Першы раз надрукавалася ў часопісе «Вясёлка» ў 1970 годзе. Паверыўшы ў свае літаратурныя здольнасці, з таго часу пяра не кідае.

Самабытнасць паэтэсы Г. Бабарыка — у непадкупнай шчырасці, дасціпнасці, удумлівасці. Амаль ва ўсіх творах адчуваецца яе непадробнае жыццялюбства, спакойная разважлівасць, заглыбленасць, жаночая спагадлівасць і добразычлівасць. Голас аўтаркі выклікае суперажыванне, часам — зачароўвае. Так, у вершах, прысвечаных вясне, удала адлюстроўваецца святочны настрой прыроды, адчуваецца напаўненне новай сілай, хараством і святлом для далейшага стваральнага руху.

Вострае адчуванне кожнага імгнення дапамагае стварыць асаблівае палескае гучанне, непаўторнае ў сваёй светлыні:

*На хвалях зялёнага мая*
*Душа ўскалыхнецца твая,*
*Зямная краса — не зямная*
*Пад музыку-трэль салаўя.*

Паэтэса добра разумее не раз пачутае мудрае выказванне, што быць літаратарам — высокая місія і вялікая адказнасць, што толькі шчырае, яркае, глыбакадумнае слова застаецца жывым сведчаннем прысутнасці на зямлі. Ці не таму ў яе творах можна сустрэць радкі-запаветы?

*Кожны міг пралятае хутчэй, чым страла,*
*Кожны міг не паўторыцца болей,*
*Дык спяшайся так жыць,*
*каб душа прарасла*
*Да нашчадкаў, як кветка любові.*

А выказванне «Веру, што не ўзрадуецца зло, // Свет уберажэцца ад udараў…» гучыць адначасова як малітва і як прароцтва.

У раздзеле «Пазначаны словамі-песнямі мапы» Г. Бабарыка звяртаецца выключна да малой радзімы, асаблівай «матулінай мовы», да сваіх землякоў, звычаяў, свят і абрадаў; адпаведная і геаграфія: вёсачка Мачуль, рачулка Моўства, старажытны Давыд-Гарадок.

Што ні кажы, а найбольш любіць паэтэса восень. Ёй прысвечаныя і «Асеннія матывы», і «У палоне восені», і «Сум восені», і «Лістапад», і «Развітанне з лістападам» ды многія іншыя вершы. І нават адзін з раздзелаў кнігі названы «Здзіўлены восеньскім маем» — не кажучы ўжо пра назву самога зборніка. Яркая, залатая восень у яе творчасці сімвалічна атаясамліваецца з парой саспелага чалавечага жыцця.

Не пакідаюць абыякавым і яе творы на хрысціянскія матывы, таксама — вершы-прысвячэнні: Максіму Багдановічу, маці, сястры, каханню, сябрам.

І асобнае месца займаюць у творчасці спадарыні Галіны творы-роздумы пра чалавечую самоту і сум, дзе пульсуе жаданне падказаць чытачу: як жа вырвацца з паўсядзённай руціны на волю? І што рабіць, каб «душа не заставалася галоднай»?..

**Надзея ПАРЧУК**

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 7.**

# Міхаіл Міхайлавіч, князь Мышкін

Віцебскае мастацкае вучылішча было заснаванае ў 1918 годзе па прапанове мастака Марка Шагала. Тут працавалі сусветна вядомыя прадстаўнікі авангарднага мастацтва Казімір Малевіч, Эль Лісіцкі. Пра кантакты з Малевічам М. Бахцін згадвае ва ўспамінах пра віцебскі час. Ён з сімпатыяй ставіўся да асобы заснавальніка супрэматызму і да яго ідэй. І гэта пры тым, што адносіны ўлад да мастака былі негатыўнымі. Цікава, што і ў асяродку сяброў Бахціна былі адкрытыя крытыкі Малевіча.

Кансерваторыю, створаную па ініцыятыве мясцовага прафсаюза музыкантаў, узначальваў вядомы петраградскі дырыжор Мікалай Малько. Таксама ў паслярэвалюцыйным Віцебску дзейнічаў народны ўніверсітэт, працавалі вядомыя акцёры. Культурнае жыццё губернскага горада было дзякуючы актыўнасці прыезджых сталічных знакамітасцяў. Пра ўсё гэта распавядаў М. Бахцін у размовах з літаратуразнаўцам Віктарам Дувакіным, пераконваючы, што паслярэвалюцыйны культурны Віцебск — цікавы феномен. Тут філасофскі гурток Бахціна набыў новых удзельнікаў: літаратуразнаўцу Паўла Мядзведзева, гісторыка Валерыяна Вейгер-Рэйдэмейсцера, інтэлектуальнага ўніверсума Івана Салярцінскага.

Першым адрасам М. Бахціна была кватэра, якую займаў Леў Пумпянскі. Гэты адрас мы знаходзім у яго першай аўтабіяграфіі, напісанай з нагоды паступлення на працу ў педагагічны інстытут. Дом на вуліцы Суворава, у якім пражывалі Бахцін і Пумпянскі ўвосень 1920-га, захаваўся да нашых дзён. Другі адрас (1921 — 1924 год) — кватэра доктаркі Аляксееўскай, сваячніцы яшчэ аднаго яго сябра — Валянціна Валошынава.

## «У ВІЦЕБСКУ МНЕ СТРАШНА НЕ ШАНЦУЕ... »

На пачатку віцебскага перыяду М. Бахцін вёў актыўную лекцыйную працу не толькі ў навучальных аўдыторыях, але і ў адкрытых лекторыях. Тэматыка лекцый была даволі шырокая і прысвечаная не толькі гісторыі літаратуры, але гісторыі культуры і філасофіі.

Першая публікацыя М. Бахціна з'явілася яшчэ ў невельскі час. Гэта артыкул у аднадзённай мясцовай газеце «Дзень мастацтва» пад назвай «Мастацтва і адказнасць». Менавіта ім распачынаецца шасцітомны збор твораў вучонага, выдадзены ў 1997 — 2012 гг.

Пра віцебскі перыяд трэба казаць як пра час канчатковага філасофскага станаўлення М. Бахціна. Тут ён пачаў сістэматычна працаваць над тэкстамі сваіх вялікіх работ. Па іроніі лёсу спрыялі гэтаму асабістыя праблемы, якія абмежавалі яго актыўнасць: на пачатку вясны 1920 года, перахварэўшы на тыф, ён займеў ускладненне, якое зрабіла яго інвалідам. У лісце да Мацвея Кагана Бахцін паведамляе: «У мяне зноў бяда: у выніку ўскладнення пасля тыфу здарылася запаленне коснага мозгу ў правай назе, давялося перанесці аперацыю… У Віцебску мне страшна не шанцуе, я амаль увесь час праводжу ў ложку». Прыкаваны да ложка, М. Бахцін чытаў лекцыі для сваіх студэнтаў у хатнім пакоі. Абмежаваны фізічна, ён быў надзвычай заняты навукай. У гэты час з'явіліся рукапісы дзвюх вялікіх работ, якія пабачылі свет праз дзесяцігоддзі, пасля смерці іх аўтара: «Да філасофіі ўчынку» і «Аўтар і герой у эстэтычнай дзейнасці».

## ТАЯМНІЦЫ БІЯГРАФІІ

У Віцебску М. Бахцін сустрэў сваю будучую жонку. 16 ліпеня 1921 года зарэгістраваны шлюб Міхаіла Міхайлавіча з Аленай Аляксандраўнай Акаловіч.

Пра паходжанне Алены Акаловіч вядома няшмат. У размовах з Віктарам Дувакіным, што адбываліся пасля смерці жонкі, М. Бахцін паведамляе: яна мясцовая, бацькі яе мелі маёнтак недзе пад Полацкам, у якім маладыя нават жылі два ці тры лета. А далей — фантастычная версія паходжання прозвішча жонкі. М. Бахцін сцвярджае, што поўнае яе прозвішча Берш-Акаловіч, дзе прыдатак Берш сведчыць пра шляхецкае паходжанне роду, а самое прозвішча мае ці не балгарскія карані. Можна меркаваць, што Акаловічы сапраўды паходзяць з дробнапамешчыцкай шляхты. Але сведчыць пра гэта ў паслярэвалюцыйны час было небяспечна.

Была яшчэ адна небяспечная для таго часу «пляма» — бацька Алены Аляксандр Георгіевіч меў паліцэйскі чын прыстава 2-й часткі горада Віцебска. Сям'я валодала домам і была дастаткова забяспечанай. Пасля рэвалюцыйнага перавароту Акаловічы хутка з'ехалі з Віцебска і хаваліся ў маёнтку. Звесткі пра яго можна знайсці ў даведніку «Спіс населеных месцаў Віцебскай губерні», дзе адзначана, што «фальварак Горкі Еўфрасініеўскай воласці Полацкага павета пры рацэ Дрысе належыць А. Акаловічу, асабістаму ганароваму грамадзяніну, праваслаўнаму, 180 дзесяцін зямлі і 176 дзесяцін лесу з 1 дваром жыхароў, размешчаны ў 124 вёрстах ад Віцебска і 30 вярстах ад Полацка».

Алена Аляксандраўна скончыла ў Віцебску Аляксееўскую гімназію, была студэнткай натуральна-геаграфічнага факультэта Віцебскага інстытута народнай адукацыі, атрымала кваліфікацыю настаўніцы народных вучылішчаў. Нядоўгі час працавала па спецыяльнасці. Усе звесткі — з анкеты, датаванай 1920 годам. Затым Алена Акаловіч працавала бібліятэкарам адной з цэнтральных віцебскіх бібліятэк — «Дома кнігі». Там, хутчэй за ўсё, і адбылася яе сустрэча з Міхаілам Міхайлавічам.

## ХТО АЎТАР?

Як Бахцін, не маючы, хутчэй за ўсё, нават завершанай гімназічнай адукацыі і дыплома аб заканчэнні ўнівесітэта, мог працаваць выкладчыкам педагагічных інстытутаў, потым універсітэта і нават абараніць кандыдацкую дысертацыю?.. Гісторыкі лічаць, што гэтаму спрыяў не толькі талент, але вялікая самаадукацыйная праца. Але ёсць адна юрыдычная калізія…

Распаўсюджанню ідэй вучонага спрыяла выдадзеная ў 1929 годзе кніга, але збольшага работа была невядомая сучаснікам. Час ад часу М. Бахцін адчуваў недахоп сацыяльнага статусу. Упершыню гэта, відаць, востра адчулася, калі ён у сярэдзіне 1920-х апынуўся ў становішчы маладога пенсіянера і інваліда. У гэты час у Петраградзе, куды М. Бахцін з жонкай перабраўся ў 1924 годзе, былі надрукаваныя



*Дом па вуліцы Суворава ў горадзе Віцебску, у якім пражываў у 1920 годзе М. М. Бахцін.*

пад імёнамі яго сяброў Паўла Мядзведзева, Валянціна Валошынава, Івана Канаева творы, якія сёння многімі даследчыкамі разглядаюцца як тэксты самога М. Бахціна. Ідэі, пакладзеныя ў іх аснову, паўсталі менавіта ў «коле Бахціна». Дасюль не зразумела, у якой ступені гэтыя работы належаць самому навукоўцу. У апошнія гады яны выдадзеныя ў кніжнай серыі «Бахцін пад маскай». Ёсць меркаванне, што «маскарад» — гульня вучонага, які не меў акадэмічнага становішча ў адрозненне ад яго сяброў. Да ўсяго, ён шчодра раздорваў свае ідэі. Пра гэта сведчаць запісы яго віцебскіх лекцый, зробленыя Рахіллю Міркінай. Ёй жа належаць успаміны «Бахцін, якім я яго ведала». Р. Міркіна параўноўвала свайго настаўніка з князем Мышкіным.

## «ДЫЯЛОГ. КАРНАВАЛ. ХРАНАТОП»

Сёння асоба М. Бахціна ўспрымаецца як прыкметная з'ява культурнага жыцця паслярэвалюцыйнага Віцебска, часу вядомага «віцебскага рэнесансу». Невыпадкова ў 1992 годзе група выкладчыкаў Віцебскага ўніверсітэта выступіла з прапановай выдаваць часопіс «Дыялог. Карнавал. Хранатоп». У назве выдання аб'ядналіся базавыя паняцці філасофскай канцэпцыі М. Бахціна. Падзагаловак сведчыць пра шырокую праграму: «часопіс навуковых росшукаў аб біяграфіі, тэарэтычай спадчыне і эпасе М. М. Бахціна». Галоўным рэдактарам і выдаўцом часопіса быў дацэнт кафедры рускай літаратуры Мікалай Панькоў. Яго дапаможцы і аднадумцы — калегі па кафедры Іван Лапін, Віктар Здольнікаў, прадстаўнікі іншых кафедр Васіль Бабіч і Андрэй Даражэвец. І гэта толькі тая частка калектыву, што пазначалася ў рэдакцыйным складзе.

Адна з галоўных тэм часопіса — ранняя біяграфія М. Бахціна, якае змяшчае яшчэ шмат лакунаў, у тым ліку — віцебскі перыяд. Часопіс надрукаваў многія дакументальныя сведчанні таго часу. Яшчэ адна сфера дзейнасці выдання — асэнсаванне такой з'явы, як «кола Бахціна». Спадчына яе прадстаўнікоў дазваляе зразумець многае, што зроблена ўласна М. Бахціным. Зноў жа, практычна невычарпальны кірунак — інтэрпрэтацыя ідэй Бахціна ў сучаснай навуцы.

З 1995 года ў Віцебску праводзіліся Бахцінскія чытанні. Часопіс набыў аўтарытэт у сусветным бахцінаназнаўстве, сведчаннем чаму — запрашэнні да ўдзелу міжнародных бахцінскіх канферэнцый, якія ладзіліся ў вядучых універсітэтах Бразіліі, Вялікабрытаніі, Германіі, Даніі, Ізраіля, Індыі, Італіі, Канады, Мексікі, ЗША, Фінляндыі, Францыі.

Вяртанне многіх імёнаў, якімі можа ганарыцца наша культура, было і застаецца справай энтузіястаў. Гэта ў поўнай меры датычыць імя Міхаіла Бахціна. Простая думка, што яго ідэі ўзрасталі ў віцебскім асяродку аднадумцаў, мусіла прагучаць шмат разоў, каб зрабіцца агульна прызнанай. І нехта павінен быў яе паўтараць…

**Аляксандр ЛІСАЎ, фота аўтара**

# Верш для першага хіта

У Літаратурным музеі Петруся Броўкі з аншлагам распачаўся другі сезон праекта «Чытаем сваё. Класіка». Падчас першага мерапрыемства новага навучальнага года супрацоўнікі музея і запрошаныя выступоўцы ўзгадалі былога гаспадара кватэры на Карла Маркса: 25 чэрвеня споўнілася 110 гадоў з дня нараджэння Петруся Броўкі.

На пачатку сустрэчы супрацоўніца музея Ліна Мядзведзева ўзнавіла ў памяці біяграфію Пятра Усцінавіча. У дзевятнаццаць гадоў будучы паэт ужо быў старшынёй сельсавета, але займаўся не толькі гаспадарчымі справамі — ладзіў вячоркі, вечары мастацкай самадзейнасці. Выступоўцы згадалі акалічнасці трагічнага і складанага часу — 1920 — 1930-х гадоў і адзначылі, што Пятрусь Броўка падтрымліваў многіх калег, якія спазналі нядобразычлівае стаўленне з боку савецкай улады. Гэта і Уладзімір Дубоўка, і Янка Купала, які ў свой час звярнуў увагу на Броўку як паэта. Да працы над «Беларускай Савецкай Энцыклапедыяй» Пятрусь Усцінавіч далучыў рэабілітаванага Яна Скрыгана, бо дбаў пра чысціню беларускай мовы і хацеў, каб усе артыкулы былі напісаныя на добрай беларускай мове, адпаведна беларускаму сінтаксісу.

Роздумамі пра ідэальны верш і асаблівасці беларускай паэзіі падзяліўся Леанід Дранько-Майсюк. На думку вядомага паэта, Пятрусь Броўка — прадстаўнік высокага стылю, уласцівага савецкай эпосе, а «Пахне чабор... » — незвычайны твор, бо «мае неверагодную рытміку, абсалютную яснасць, адметны чысцінёй беларускай мовы і абмалёўвае зразумелую сітуацыю. Лірычны герой — няўпэўнены ў сабе, разгублены хлопец, які не ведае, чаго хоча. Мужчынскія персанажы такога кшталту неадночы сустракаюцца ў беларускай літаратуры, што дазваляе меркаваць пра асаблівасці нацыянальнага характару».

Яшчэ адзін вядомы верш Петруся Броўкі — «Александрына», паводле якога напісана знакамітая песня ансамбля «Песняры», дарэчы, падрыхтаваная да 55-годдзя паэта, якое адзначалася ў Маскве. Гісторыю песні распавёў Сяргей Будкін — музычны журналіст, галоўны рэдактар інтэрнэт-партала «Тузін Гітоў». Што ўнікальна для СССР, «Александрына» паўсюль выконвалася на нацыянальнай мове і яе тэкст ніколі не гучаў па-руску.

«Александрына» — пяшчотная доўгая песня, якая ў савецкі час часта гучала на танцах. Па словах Леаніда Дранько-Майсюка, менавіта пад гэтую кампазіцыю хлопцы імкнуліся запрасіць сваю сяброўку і нават давалі хабар тагачасным ды-джэям, каб песня гучала ў патрэбны момант. Так жыццё і каханне моладзі было асветлена паэзіяй Петруся Броўкі. Дарэчы, у рэйтынгу партала «Тузін Гітоў» «Сто найвялікшых беларускіх песень», складзеным па апытанні 90 экспертаў розных пакаленняў, «Александрына» заняла першае месца!

Наступная сустрэча ў Літаратурным музеі Петруся Броўкі будзе прысвечаная творчасці Янкі Купалы. Чытаем сваё!

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Трэйлер ці экранізацыя?

**Яшчэ са старажытных часоў пісьменнікі імкнуліся рэкламаваць свае кнігі. Спачатку ўвага патэнцыяльных чытачоў прыцягвалася доўгімі загалоўкамі і падзагалоўкамі, што змяшчалі апісанне твора, пазней выдаўцы сталі размяшчаць на вокладках новых раманаў кароткія водгукі-рэкамендацыі ўплывовых крытыкаў. Прыйшло на дапамогу і кіно. З’яўленне экранізацый вядомых і невядомых літаратурных твораў і дагэтуль спрыяе павышэнню продажаў кніг, што сталі асновай кінасцэнарыяў.**

З пашырэннем уплыву сеткі інтэрнэт, актыўным распаўсюджаннем рэкламы і развіццём тэхналогій можна звязаць з’яўленне яшчэ аднаго спосабу прамоцыі кнігі ў медыя. Кніжны трэйлер, ці буктрэйлер, — вось новая прыступка, новы шлях прыцягнуць увагу чытача да ўжо вядомага твора літаратуры ці кнігі, што толькі рыхтуецца да друку.

І калі ў краінах Заходняй Еўропы буктрэйлеры ўжо паказваюць па тэлевізары, выдаўцы абавязкова ўключаюць такія відэаролікі ў рэкламную кампанію «хітовай» кнігі, то ў нашай краіне гэты жанр толькі пачынае сваё жыццё. Так, ужо з’явіўся ў інтэрнэце і атрымаў шырокія водгукі трэйлер да апавядання Міхася Стральцова «Смаленне вепрука», а выдавецтва «Рэгістр» часам суправаджае новы раман відэаролікам (яны таксама размяшчаюцца на сайце кампаніі і дэманструюцца падчас прэзентацый). Але вельмі хутка становішча можа выправіцца, і ўжо цягам некалькіх месяцаў з’явяцца больш як сто беларускіх буктрэйлераў, што распавядуць пра ўжо вядомыя ці яшчэ не выдадзеныя творы замежных і айчынных аўтараў. Так, стартаваў пяты фестываль мабільнага кіно *velcom Smartfilm*, тэмай якога стаў кніжны трэйлер.

## «ПАСЛЯ ПРАЧЫТАННЯ — ЗНЯЦЬ»

Менавіта пад такім слоганам сёлета праходзіць фэст *velcom Smartfilm*. Арганізатары прапануюць удзельнікам фестывалю не толькі зняць трэйлер на смартфон і апрацаваць яго пры дапамозе мабільных дадаткаў. Фэст уключае цэлую сістэму майстар-класаў, сустрэч са спецыялістамі, якія дапамогуць рэжысёрам-пачаткоўцам засвоіць базавыя веды, перакласці задумкі на мову кіно, знайсці найбольш удалыя тэхнічныя рашэнні. Па меркаванні маладога рэжысёра Мітрыя Сямёнава-Алейнікава, які аднойчы ўжо атрымаў перамогу на фестывалі *velcom Smartfilm*, а зараз з’яўляецца лаўрэатам многіх еўрапейскіх кінафэстаў, менавіта адукацыйная праграма дапамагла рэалізаваць задумку, увасобіць яе ў кароткім відэаролік.

— У мяне быў толькі тэлефон з камерай і вялікае жаданне здымаць. Як гэта зрабіць? Я не ведаў, — распавёў Мітрый. — Больш за тое, на майстар-класах я бачыў сваіх саапернікаў, разумеў, што будзе сапраўднае спаборніцтва. Канкурэнцыя прымушала працаваць старанней, імкнуцца зрабіць усё як мага лепш.

Ацэньваць буктрэйлеры маладых рэжысёраў будзе журы, у склад якога ўвайшлі: праграмны дырэктар Мінскага міжнароднага кінафестывалю «Лістапад» Ігар Сукманаў, кінааналітык і культуролаг Максім Жбанкоў, рэжысёр-дакументаліст Андрэй Куціла, рэжысёр і аператар Сяргей Лебедзеў. Работы будуць прадстаўляцца ў 13 намінацыях: лепшы буктрэйлер у жанры хорар, дэтэктыў, драма, лепшае прома комікса, лепшы мантаж, праца з гукам.

Адметна, што спецыяльны прыз фестывалю *velcom Smartfilm* атрымае пераможца намінацыі «Лепшы буктрэйлер беларускай літаратуры». Каб пазнаёміць магчымых удзельнікаў фэсту з топ-10 найлепшых айчынных твораў, сарыентаваць маладых рэжысёраў, арганізавана экспертная група «мастліт», у склад якой увайшлі вядомыя пісьменнікі, перакладчыкі і сцэнарысты. Адмыслова для фестывалю яны рыхтуюць «Партфоліа», якое будзе прадстаўленае падчас Ночы бібліятэк. Маркуецца, што на гэтай імпрэзе таксама выступяць вядомыя айчынныя спевакі, акцёры, дыпламаты. Яны прачытаюць урыўкі са сваіх любімых літаратурных твораў, прымуць удзел у абмеркаванні.

Маладыя рэжысёры для пераўвасаблення ў буктрэйлеры змогуць абраць не толькі апублікаваныя тэксты. Некаторыя пісьменнікі і выдаўцы ўжо далі згоду на прадстаўленне ўрыўкаў твораў, што толькі рыхтуюцца пабачыць свет. Так, кніжны трэйлер, апроч непасрэднага ўдзелу ў фестывалі, можа стаць часткай рэкламнай кампаніі новай кнігі.

## ГЭТА НЕ ПЕРАКАЗ!

Па якіх правілах ствараецца буктрэйлер? Чым ён адрозніваецца ад экранізацыі? Думаецца, гэтыя пытанні задаюць сабе многія чытачы. Бо жанр кніжнага прома-роліка новы не толькі для «карыстальнікаў» беларускай медыяпрадукцыі, але і для яе «стваральнікаў».

— Буктрэйлер працуе як прома-ролік літаратурнага тэксту менавіта таму, што ён не пераўвасабляе твор у паўнавартаснае кіно, — кажа сябар журы фэсту *velcom Smartfilm* кінакрытык, культуролаг Максім Жбанкоў. — Гэта спрынт, кароткае кінавыказванне, якое доўжыцца да трох хвілін. Мы ж не кажам, што прома-ролік фільма можа замяніць сам фільм, так і буктрэйлер дазваляе толькі зазірнуць у атмасферу твора. Ды і немагчыма распавесці ўвесь сюжэт кнігі за такі кароткі час! Гэта сустрэча двух аўтараў — літаратара і кінарэжысёра. І тое, што адбываецца ў буктрэйлеры, — увасабленне перажывання кнігі, а не яе літаральнага прачытання.

Старшыня Беларускага ПЭН-цэнтра, перакладчык і сябар экспертнай групы «мастліт» Андрэй Хадановіч мяркуе, што буктрэйлер можна параўнаць з анатацыяй кнігі, расказанай паэтычнай мовай кіно. Ён прапануе маладым рэжысёрам звярнуць увагу не толькі на апавяданні ці раманы, але і кнігі ў жанры нон-фікш, зборнікі філасофскіх эсэ, паэзіі. Можа атрымацца выдатны эксперымент.

Такім чынам, у буктрэйлеры пазначаюцца эмацыянальныя кропкі літаратурнага тэксту, што закранулі рэжысёра падчас чытання. Гэта не сам твор, а яго водгулле, прадстаўленае ў форме відэароліка. І, думаецца, вельмі важны момант — трэйлер мусіць пераўтварыць гледача ў патэнцыяльнага чытача, правакаваць яго на чытанне.

Работы ад маладых рэжысёраў — удзельнікаў фестывалю *velcom Smartfilm* прымаюцца да 31 студзеня 2016 года, вынікі фэсту будуць падведзеныя 12 лютага 2016 года. Гран-пры сёлета складзе 30 мільёнаў рублёў, а прызамі ў намінацыях стануць смартфоны *Lumia* 550 ці *Lumia* 950 ад партнёра фестывалю — кампаніі *Microsoft*.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Ружжо, якое стрэліла

**У межах Мінскага міжнароднага кінафестывалю «Лістапад» сёлета была прадстаўленая экранізацыя дэтэктыўнага рамана Себасцьяна Жапрызо «Дама ў акулярах і са стрэльбай у аўтамабілі». Кнігу ў кінастужку пераўвасобіў французскі рэжысёр, аўтар коміксаў Жаан Сфар.**

«Дама ў акулярах…» — другая рэжысёрская работа спадара Жаана. Пяць гадоў таму на экраны выйшаў яго дэбютны фільм «Генсбур: каханне хулігана», які распавёў гісторыю жыцця, творчасці, асабістых стасункаў знакамітага французскага паэта, кампазітара, выканаўцы песень Сержа Генсбура. Думаецца, любоў маладога рэжысёра да асоб, звязаных з літаратурай, герояў кніг і заблытаных сюжэтаў абумовіла і выбар матэрыялу для новай работы, прадстаўленай сёлета.


*Фота з сайта listapad.com.*

*Прома-фота да фільма Жаана Сфара «Дама ў акулярах і са стрэльбай у аўтамабілі».*

Але дэтэктыў «Дама ў акулярах і са стрэльбай у аўтамабілі» — не самы просты тэкст для пераўтварэння ў кіно. Таму, забягаючы крыху наперад, адзначу амаль традыцыйны для экранізацый момант — кніга цікавейшая, чым фільм. Яна захоплівае фактычна з першай старонкі, трымае ў напружанні да самага канца, хоць і дае некаторыя падказкі. У рамане не толькі героі сумняваюцца ў правільнасці сваіх рашэнняў, адэкватнасці ўспрымання сябе і свайго жыцця, але і яго чытач аказваецца заблытаным у «павуцінні сумневаў».

Таму можна сцвярджаць, што дэтэктыў Жапрызо і кінастужка Сфара (як гэта часта здараецца з кнігай і яе экранізацыяй) — зусім розныя творы. Магчыма, таму ў анатацыі да фільма змешчана выратавальная фраза «па матывах кнігі». Калі пісьменнік вывеў на першы план тэмы вар’яцтва, здрады, помсты, пакуты і асуджэння невінаватых, то рэжысёр аўтарскую задумку крыху спрасціў, пакінуўшы гледачам магчымасць разважаць адно пра вар’яцтва і помсту.

Кінастужка ўслед за кнігай распавядае гісторыю Дані — сакратаркі рэкламнага агенцтва, якая мае слабы зрок, таму ўвесь час носіць вялікія акуляры. Аднойчы, замест таго, каб пакінуць аўтамабіль дырэктара фірмы ля яго дома, яна выпраўляецца ў падарожжа на поўдзень Францыі — бо ніколі не бачыла мора. Але замест прыемнага адпачынку яе чакаюць небяспечныя знаёмствы, дзіўныя сустрэчы і нават… труп у багажніку, а побач з ім — стрэльба. Парушыўшы першапачатковы план, Дані апынаецца ўцягнутай у заблытаную гісторыю. І чым далей яна рухаецца на поўдзень, тым больш заблытваецца ў павуцінні сумневаў, падману і самападману. Хто яна — простая сакратарка ці жорсткі забойца? Што ці хто кіруе гераіняй? І хто ў гэтай гісторыі самы вялікі і злосны павук-забойца?

Адметна, што кніга і фільм маюць зусім розныя фіналы. Прыемны хэпі-энд, прыдуманы пісьменнікам Жапрызо, рэжысёр Сфар замяніў на цалкам супрацьлеглую трагедыю галоўнай гераіні. Нечакана абарваўшы расповед, ён не дазволіў канве гісторыі раскруціцца да самага канца. Шкада.

Зрэшты, тым, хто кнігу не чытаў, фільм прыйдзецца дападобы. Тут кадры вельмі прыгожыя, колеры цёплыя, а акцёры прываблівыя. Жанчыны адзначаць неверагодную вытанчанасць касцюмаў, а мужчыны захопяцца магутнымі аўтамабілямі з фільма. Дарэчы, у адрозненне ад кнігі, ружжо з машыны ў фільме ўсё ж стрэліла. Не буду раскрываць сакрэт, чые рукі яго трымалі ў апошніх кадрах.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Лекар для Коласа

**Часам жыццёвыя абставіны вымушаюць нас звярнуцца да доктара. Адны дактары лечаць вострыя рэспіраторныя захворванні і прастуду, другія дапамагаюць справіцца са стрэсам, кепскім настроем. Ёсць і такія, якім мы абавязаны жыццём. Апошнія на доўгі час застаюцца ў нашай памяці.**

Якуб Колас з павагай ставіўся да сваіх дактароў. У 1950-х гадах, калі паэт быў ужо ў пажылым узросце, яго непакоіў высокі ціск, балелі суставы, часта хварэў і на запаленне лёгкіх. Таму так ці інакш даводзілася звяртацца да дактароў. У кнізе «Колас расказвае пра сябе» Максім Лужанін піша: «Жартоўныя прысвячэнні дактарам, усхваляючы іх цудадзейную моц і высмейваючы сваю нядужасць, Канстанцін Міхайлавіч пісаў часта. Асабліва шанцавала С. О. Ліяранцэвічу, які ў вершаваных коласаўскіх пасланнях іменаваўся «мітрапалітам Сергіем».



Мікалай Бобрык, 1948 г.

С. О. Ліяранцэвічу Якуб Колас прысвяціў такія вершы, як «Малітва доктару Ле-Лі», «Добраму ўрачу Ліо-ра-чу», «Пажаданні доктару-паляўнічаму» і іншыя. У фондах Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа захоўваецца рукапіс верша «Дактарам», пад назвай якога рукою паэта пазначана *«Маім шаноўным дактарам — Д. А. Маркаву, Б. І. Трусеву і С. І. Ліяранцэвічу, свяцілам зямлі Беларускай»*.

Некаторым дактарам Якуб Колас дарыў свае кнігі. Так, у 1948 годзе Д. Р. Абрамовічу Якуб Колас падарыў кнігу «Рыбакова хата» з наступным дарчым надпісам: *«Дорогому Давиду Григорьевичу Абрамовичу. «Да не услышит ухо Ваше легочных хрипов»*. Такую ж кнігу — «Рыбакова хата» — Якуб Колас падарыў Міліцы Іванаўне Дашкевіч, урачу бальніцы, дзе ён лячыўся.

Лёс наканаваў Якубу Коласу сустрэцца з яшчэ адным доктарам — доктарам, які выратаваў яму жыццё… Быў 1955 год. 17 студзеня Якуб Колас адкрывае вечар, прысвечаны 2400-годдзю з дня нараджэння Арыстафана. Вечарына была арганізавана Беларускім таварыствам сувязі з замежжам, Саюзам пісьменнікаў БССР і Беларускім рэспубліканскім камітэтам абароны міру. Якуб Колас абяцаў выступіць з уступнай прамовай на вечары задоўга да яго правядзення, не хацеў парушыць свайго абяцання, таму і не прызнаўся, што адчувае сябе не вельмі добра. Вядома, дактары забаранілі б выходзіць паэту з дома, і трапіць на святочны вечар было б немагчыма.

Наступным днём стан здароўя паэта значна пагоршыўся. Максім Лужанін успамінае: Якуб Колас «гаварыць і нават шаптаць не можа. Вочы замгліліся пялёнкаю болю, моцна сціснутыя вусны здаюцца бледна-жоўтым рубчыкам, знакам, што застаецца ад сечанай раны». Хоць паэт і быў супраць, але прыйшлося выклікаць дактароў. Па словах Максіма Лужаніна, у хуткім часе «на парозе спаленькі з'яўляецца магутнейшая дактарская брыгада. Прафесары Д. А. Маркаў і Б. І. Трусевіч і ўрач, які бываў тут на правах «хатняга доктара», заўсёды вясёлы і бадзёры, хоць і сам цяжка хворы, выключнай спрактыкаванасці і светлай натуры чалавек С. О. Ліяранцэвіч». З дыягназам «востры апендыцыт» хворы быў шпіталізаваны. Кансіліум дактароў лечкамісіі пацвердзіў першасны дыягназ. Калі хворы пагодзіцца на аперацыю, будуць выклікаць хірурга з Масквы.

Максім Лужанін успамінае: «На досвітку па тэлефоне дазнаюся ў дзяжурным пакоі: аперацыю зрабіў, узяўшы ўсю адказнасць на сябе, лепшы наш хірург Мікалай Іванавіч Бобрык. Становішча хворага цяжкое». Сам паэт у лісце да свайго сябра і перакладчыка Сяргея Мітрафанавіча Гарадзецкага піша: *«Если бы я приехал на операцию на сутки позднее, то уже не было бы смысла делать её…Через несколько часов могло бы быть воспаление брюшины, и тогда Якубу Коласу был бы крах»*. Пра перажытае паэт дзеліцца і з М. М. Прозаравай, знаёмай яго сям'і: *«О многом я мечтал и думал за своё долгое житьё, но никогда не приходила мне в голову мысль, что придётся оперироваться, чтобы вырезать аппендицит. Сегодня месяц, как меня оперировали. Обычно после этих операций больной выписывается дней через десять. Я же немного запоздал на оперирование: еще через сутки, и операция была бы бесполезна. Отросток слепой кишки принял настолько агрессивную форму, что уже начался воспалительный процесс, который вызвал бы воспаление брюшины, чего я едва ли перенес бы. Операцию я перенес легко, но было очень тяжело после операции. Были моменты, что я жалел, что согласился на операцию. Через несколько дней после операции заболел воспалением лёгких»*. П. А. Сямыніну, сябру і перакладчыку, Якуб Колас паведамляе: *«никак я не гадал, не думал, что некую часть своего организма придётся выбросить. Операцию перенес хорошо, даже шутил во время операции, несмотря на то, что отросток слепой кишки сильно разбух и уже начинал гноиться. Только когда хирург потянул кишку, я почувствовал сильную боль и застонал. Потом спрашивал, скоро ли придёт портной — имелось в виду зашивание разреза, т.е. конец операции»*.



Якуб Колас, 1956 г.

Свайму збавіцелю Якуб Колас падарыў кнігу — першы том збору твораў, які выйшаў у 1952 годзе ў Мінску ў Дзяржаўным выдавецтве БССР. На кнізе паэт пакінуў дарчы надпіс: *«Дарагому Мікалаю Іванавічу Бобрыку на памяць ад удзячнага пацыента. Якуб Колас. 7.ІІІ. 1955 г.»*. Зусім нядаўна гэту кнігу ў фонды Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа перадала пляменніца таленавітага хірурга Саўцова Арыядна Ільінічна. Гэта кніга стала 85-м выданнем у калекцыі «Кнігі з дарчымі надпісамі Якуба Коласа». Усе выданні з гэтага збору — унікальныя, бо да кожнага з іх дакранулася рука пісьменніка, кожнае мае яго арыгінальны аўтограф, кожнае было падорана самім паэтам яго родным і блізкім, сябрам і знаёмым.




Дарчы надпіс, які Якуб Колас пакінуў на кнізе для Мікалая Бобрыка.

Не абмінём увагай асобу самога Мікалая Іванавіча Бобрыка. Ён — не просты хірург, а загадчык кафедры агульнай хірургіі Мінскага медыцынскага інстытута (1955 — 1956 гг.), загадчык хірургічнага аддзялення Рэспубліканскай бальніцы 4-га лячэбна-санітарнага ўпраўлення Міністэрства аховы здароўя БССР (1949 — 1956 гг.), галоўны анколаг Міністэрства аховы здароўя БССР (1949 — 1954 гг.), заслужаны ўрач БССР (1948 г.). Значная колькасць навуковых работ Мікалая Іванавіча прысвечана пытанням анкалогіі. Ён быў прыхільнікам тэорыі вірусагенетычнага паходжання злаякасных пухлін, вывучаў пытанні іх дыягностыкі, клінікі і лячэння. У 1948 — 1949 гг. працаваў на пасадзе галоўнага ўрача Рэспубліканскага анкалагічнага дыспансера. У 1953 годзе выйшаў навукова-папулярны нарыс Мікалая Іванавіча Бобрыка «Рак і барацьба з ім». Мікалай Іванавіч узнагароджаны чатырма ордэнамі, у тым ліку двума баявымі, ордэнам Леніна, медалямі.

Удзячны пацыент Якуб Колас не толькі падарыў Мікалаю Іванавічу кнігу з дарчым надпісам. Незадоўга да выпіскі з бальніцы класік беларускай літаратуры прачытаў яму верш, які быў напісаны Максімам Лужаніным, беларускім паэтам, сябрам і асабістым сакратарам Якуба Коласа. Гэты твор — своеасаблівы маналог хворага. Выслухаўшы верш, Якуб Колас папрасіў запісаць яго, а пасля «падвастрыў» два радкі ў заканчэнні:

*Добры доктар Бобрык,*
*Але страшны ножык:*
*Выража апендыкс,*
*Пакладзе на ложак.*

*Не чапні рукою,*
*Не мяльні нагою,*
*Покуль каля пупа*
*Дзіркі не загоіш.*

*Гэта ўсё мінецца,*
*Час усё заліжа…*
*Дзякуй, дзядзька Бобрык,*
*Што не рэзаў ніжай.*

Мікалаю Іванавічу верш спадабаўся. М. Лужанін у кнізе «Колас расказвае пра сябе» ўспамінае: «Падзяка табе ад Бобрыка, — сустрэў мяне Канстанцін Міхайлавіч перад выпіскай з бальніцы. — Ён вельмі рагатаў і забраў твой верш».

У бібліятэцы М. І. Бобрыка таксама захоўвалася кніга Максіма Лужаніна «Святло радзімы. Вершы і паэмы» з дарчым надпісам аўтара: *«М. І. Бобрыку цвёрдай рукі доктару, цудоўнай душы чалавеку. Максім Лужанін. 13.05.53»*. Дзякуючы пляменніцы хірурга Арыядне Ільінічне Саўцовай гэтая кніга цяпер таксама захоўваецца ў фондах Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа.

Так атрымалася, што і Якуб Колас, і Мікалай Бобрык пайшлі з жыцця ў адзін год. Таленавітага хірурга не стала 21 снежня 1956 года, ён памер на 55-м годзе свайго жыцця, перажыўшы класіка беларускай літаратуры крыху больш чым на чатыры месяцы. Пахаваны Мікалай Іванавіч на Вайсковых могілках у Мінску недалёка ад магілы Якуба Коласа.

**Васіліна МІЦКЕВІЧ,**
**кандыдат сацыялагічных навук, галоўны захавальнік фондаў Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа**

**Фотаздымкі з фондаў Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа**

## Яшчэ раз пра Сымона

Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа абвясціў пачатак конкурсу «…І, здавалася, жывое нешта йшло ад гэтых струн…», прымеркаванага да 90-годдзя паэмы Коласа «Сымон-музыка».

Арганізатары прапануюць удзельнікам прадставіць літаратурныя і літаратурна-крытычныя тэксты, эсэ, творы выяўленчага мастацтва і музычныя кампазіцыі, прысвечаныя асобным вобразам і агульным уражанням ад знаёмства з «Сымонам-музыкам». Асноўнымі мэтамі творчага спаборніцтва сталі: выхаванне любові і цікавасці да беларускай літаратуры, папулярызацыя творчасці Якуба Коласа, прыцягненне ўвагі да значных дат у біяграфіі пісьменніка, выяўленне, падтрымка і заахвочванне таленавітай моладзі. Думаецца, конкурс прыцягне ўвагу і да працы музея песняра.

На конкурс, які працягнецца да 4 студзеня 2016 года, прымаюцца індывідуальныя творчыя работы, прысвечаныя паэме Якуба Коласа «Сымон-музыка». Для ацэнкі дасланых работ ствараецца журы, у склад якога ўвойдуць вядомыя пісьменнікі, дзеячы культуры, вучоныя-коласазнаўцы.

Работы могуць быць дасланыя па пошце на адрас музея (220012, г. Мінск, вул. Акадэмічная, 5), адпраўленыя на электронную скрыню *konkurs_kolasmuseum@tut.by* ці дастаўленыя непасрэдна ў музей.

Пераможцы конкурсу па кожнай намінацыі (за лепшую літаратурную работу, твор выяўленчага мастацтва і музычную кампазіцыю) будуць узнагароджаныя запрашальным білетам на наведванне музея і ўсіх яго мерапрыемстваў на працягу 2016 года, дыпломам і каштоўнымі прызамі. Усе ўдзельнікі будуць адзначаныя падзякамі і памятнымі сувенірамі.

Больш падрабязную інфармацыю пра конкурс можна даведацца на афіцыйным сайце музея *www.yakubkolas.by*.

**Юзэфа ВОЎК**

# Памяць, якая засцерагае

**Выдавецкі дом «Звязда» працягвае здзяйсняць кнігамі энцыклапедычна-фаліянтнага кшталту. Вось і зусім нядаўна пабачыла свет яшчэ адна з іх, прысвечаная пахаванням савецкіх воінаў у Еўропе.**

У назве выкарыстаны два заклікальныя дзеясловы: жыць і помніць. Аўтары — журналістка, перакладчыца Алена Харашэвіч і юрыст, пісьменнік, доктар гістарычных навук Анатоль Шаркоў. Але, думаецца, іх духоўным суаўтарам можна па праве лічыць настаяцеля Усіхсвяцкага прыхода ў Мінску протаіерэя Фёдара Поўнага. І справа не толькі ў тым, што ў выданні выкарыстаны шматлікія фотаздымкі з яго асабістага архіва. Сама кніга цалкам стасуецца з сутнасцю ўзведзенага дзякуючы намаганням гэтага святара храма-помніка ў гонар Усіх Святых і ў памяць аб ахвярах, якія паслужылі выратаванню нашай Бацькаўшчыны.

Адкрываецца кніга зваротам мітрапаліта Філарэта, ганаровага патрыяршага Экзарха Усяе Беларусі. «Усё далей углыб гісторыі адыходзяць падзеі Вялікай Айчыннай вайны. Але час не ўладарны над людскімі сэрцамі. У іх жыве і заўжды будзе жыць памяць аб подзвігах і мужнасці тых, хто абараняў сваю Радзіму, выратоўваў свет ад фашысцкага зняволення, адстойваў светлую будучыню», — піша ён і прыгадвае святых князёў Аляксандра Неўскага і Дзмітрыя Данскога, Мініна і Пажарскага, вялікіх палкаводцаў Суворава і Кутузава, святога праведнага воіна Феадора Ушакова, адмірала Нахімава… Зазначае, што вайна 1941 — 1945 гадоў стала выпрабаваннем, дасюль нязнаным. Амаль афарыстычна гучаць і словы аўтараў кнігі, якія працягваюць вызначанае мітрапалітам: «Памяць вучыць і заклікае, пераконвае і перасцерагае, дае сілы і ўнушае веру…»

Прысвечана выданне 70-годдзю Вялікай Перамогі. Яно стала першым вынікам унікальнага праекта, які ажыццяўляецца Усіхсвяцкім прыходам з благаслення яго настаяцеля протаіерэя Фёдара Поўнага. Цяжка нават уявіць усю працу, што папярэднічала напісанню кнігі. Удзельнікам праекта давялося наведаць далёкія і блізкія ад Беларусі месцы баёў, адшукаць воінскія пахаванні, вывучаць іх, рабіць здымкі і відэазапісы… А яшчэ трэба было ўзяць зямлю з гэтых месцаў для крыпты, збіраць і ўдакладняць звесткі пра тое, дзе знайшлі апошні прытулак салдаты.

Першая экспедыцыя прайшла па рэгіёнах Германіі, Аўстрыі, Венгрыі, Польшчы, Чэхіі, Славакіі, Італіі. Аўтараў цікавілі не толькі магілы загінуўшых у баях, але і ваеннапалонных, якія былі закатаваныя ў нацысцкіх канцлагерах, на прымусовых работах, памерлі ад непасільнай працы, а таксама непаўналетніх вязняў. Гэта толькі пачатак вялікай працы, бо трэба наведаць 49 краін, каб удакладніць тое, што яшчэ, мабыць, і не спрабавалі высвятляць. І хаця аўтары не засяроджваюць на гэтым увагу, па ўсім відаць, што стаўленне да іх духоўнага клопату не ўсюды аднолькавае. Між тым яшчэ ў 1966 годзе Беларусь і Федэратыўная Рэспубліка Германія падпісалі міжурадавае пагадненне аб доглядзе за воінскімі магілкамі, якое да гэтага часу не ратыфікавана. Ёсць аналагічныя пагадненні з Італіяй, Польшчай, якія таксама дзейнічаюць без ратыфікацыі. А мэты іх самыя высакародныя.

Энцыклапедычнасць кнігі «Жыць і помніць» яшчэ і ў тым, што яна ўтрымлівае мноства гістарычных дакументаў. На старонках выдання можна даведацца і пра найбольш значныя замежныя наступальныя аперацыі. Гэта — Яска-Кішынёўская, Львоўска-Сандамірская, Будапешцкая, Бялградская, Вісла-Одэрская, Венская, Берлінская, Пражская… У іх удзельнічала 11 франтавых злучэнняў, 2 франты супрацьпаветранай абароны, 4 флаты, 50 агульнавайсковых, 6 танкавых, 13 паветраных армій, 3 ваенныя флатыліі… Амаль 8 мільёнаў савецкіх воінаў больш як год вялі жорсткія баі з ворагам на тэрыторыі 10 краін Еўропы. Тэрыторыі, якая ахоплівала 2,2 мільёна квадратных кіламетраў. Былі цалкам або часткова вызвалены Румынія, Польшча, Балгарыя, Югаславія, Чэхаславакія, Венгрыя, Аўстрыя, Германія. Звыш мільёна савецкіх воінаў загінула ў тых баях. Воінскія магілы, як сказана ў кнізе, густа рассеяны ад Буга на захад па еўрапейскіх дзяржавах. І заклікаюць да нашай сённяшняй памяці.

Вядома ж, найбольшая колькасць воінскіх пахаванняў знаходзіцца на тэрыторыі Германіі. Іх — 3600. Тут знайшлі апошні прытулак амаль 760 тысяч грамадзян былога СССР. Гэтыя пахаванні адзначаны 120 мемарыяламі, помнікамі, памятнымі знакамі. Штогод на ўтрыманне мемарыялаў у Берліне выдаткоўваецца 1 мільён еўра. А на ўсе воінскія пахаванні — каля 25 мільёнаў еўра. Належнаму ўтрыманню магіл, могілак і мемарыялаў спрыяе народны саюз, заснаваны яшчэ ў 1919 годзе. Цяпер у гэтай грамадскай арганізацыі каля 1,5 мільёна энтузіястаў. Дэвіз яго: «Прымірэнне над магіламі паўшых — работа ў імя міру». З 1996 года тут распачата стварэнне «Кнігі памяці». У 1-м і 2-м выпусках — імёны і лёсы 60 тысяч савецкіх афіцэраў, якія прайшлі праз нямецкі палон. Цікава даведацца,




*Анатоль Шаркоў, Алена Харашэвіч. Жыць і помніць: Савецкія воінскія пахаванні за мяжой. — Мінск: Выдавецкі дом «Звязда», 2015. — Кніга 1.*

> *Удзельнікам праекта давялося наведаць далёкія і блізкія ад Беларусі месцы баёў, адшукаць воінскія пахаванні, вывучаць іх, рабіць здымкі і відэазапісы… А яшчэ трэба было ўзяць зямлю з гэтых мясцін для крыпты, збіраць і ўдакладняць звесткі пра тое, дзе знайшлі апошні прытулак салдаты.*

што любыя змены знешняга выгляду воінскіх пахаванняў, а таксама іх перанос праводзяцца выключна са згоды Пасольства Расіі. Многае робіцца і для пашпартызацыі гэтых пахаванняў.

Кніга «Жыць і помніць» дазваляе нам здзейсніць своеасаблівае завочнае падарожжа па Германіі, каб пазнаёміцца з найбольш значнымі мемарыяламі: у Ціргартэне, у Трэптаў-Парку, на Зееляўскіх вышынях, у Цайтхайне, а таксама пабываць на мемарыяльных могілках Марцана, Райнікендорфа, Басінплаца, Грундхайдзэ і іншых. І гэта не проста пералік, а падрабязнае знаёмства. У прыватнасці, мемарыял у Ціргартэне прысвечаны савецкім воінам, якія загінулі пры ўзяцці Берліна. Узведзены ён адразу ж пасля заканчэння вайны ў непасрэднай блізкасці ад Рэйхстага. Аўтарамі сталі скульптары Л. Кервель і У. Цігаль, архітэктар М. Сергіеўскі.

Між іншым Леў Кервель прыгадваў, што персанальнае заданне на гэты першы помнік у гонар перамогі над фашызмам атрымаў ад маршала Г. Жукава. Цікавы факт: цэнтр мемарыяльнага збудавання, плошча якога 60 400 квадратных метраў, уяўляе сабой дугападобную каланаду з 6 гранітных пілонаў. Часаны граніт і мармур скляпеністых калон узяты з разбуранага будынка канцылярыі рэйха. Зрэшты, у чытачоў ёсць цудоўная магчымасць не толькі прачытаць, але і ўбачыць мемарыял на шматлікіх фотаздымках, змешчаных на старонках кнігі. Ёсць тут і звесткі пра мемарыял, што ў Трэптаў-Парку ўзведзены па эскізах архітэктара Я. Белапольскага, скульптара Я. Вучэчыча і мастака А. Гарбенкі. І тут не абышлося без шведскага граніту з рэйхсканцылярыі і запасаў, якія Гітлер меў намер выкарыстаць для ўзвядзення прадстаўнічых будынкаў.

Нельга не звярнуць увагу і на апісанне брацкіх магіл. Адна з іх у Дрэздэне, дзе пахаваны непаўналетнія вязні, якія былі народжаны жанчынамі-гастарбайтарамі і памерлі ў першыя месяцы жыцця. І, вядома ж, нікога не пакіне абыякавым знаёмства з мемарыяльным комплексам Дахау. Гэта быў першы канцэнтрацыйны лагер у фашысцкай Германіі. Тут праводзіліся жудасныя медыцынскія эксперыменты. Іх заражалі трапічнай малярыяй, гангрэнай, тыфам, гепатытам, халерай і спрабавалі лячыць. Толькі з сярэдзіны 1941-га да канца 1942-га года было праведзена каля 500 аперацый над здаровымі вязнямі. Ставіліся эксперыменты на нізкія тэмпературы. Амаль усе гінулі ад доследаў. Але і ў такіх нечалавечых умовах быў створаны падпольны інтэрнацыянальны камітэт, які 28 красавіка 1945 года арганізаваў паўстанне зняволеных. Каля 30 тысяч вязняў, што выжылі ў гэтым пекле, былі вызвалены на другі дзень пасля паўстання. Цяпер на месцы крэматорыя ўстаноўлены мемарыяльны камень з надпісам: «Падумайце, як мы паміралі тут». Непадалёку з'явілася і праваслаўная Свята-Уваскрасенская капліца-помнік, у якой служыць айцец Мікалай Забеліч (родам, дарэчы, з Беларусі). Неаднойчы сустракаўся з ім протаіерэй Фёдар Поўны. Аб гэтым яскрава сведчаць некаторыя фотаздымкі, змешчаныя ў кнізе.

Тых, хто будзе чытаць кнігу, мабыць, да слёз усхвалюе аповед пра мемарыял ахвярам расстрэлу на стрэльбішчы Хебертсхаўзен. Непадалёк ад канцлагера Дахау знаходзіцца месца, на якім эсэсаўцы вучыліся страляць па жывых мішэнях. Мішэнямі былі нашы суайчыннікі. Толькі за першы год вайны тут знішчана больш як 4 тысячы савецкіх ваеннапалонных. Прозвішчы некаторых з іх аўтары кнігі змаглі ўдакладніць.

Панарамна, нібы ў жудасным сне, узнікае перад намі Майданек, што ў Польшчы, які звыкла называлі лагерам смерці. Створаны ён 20 ліпеня 1941 года па загадзе Гімлера. Каля 2 тысяч савецкіх ваеннапалонных адчулі тут на сабе невыноснасць такога існавання. Масавае знішчэнне вязняў пачалося восенню 1942-га. Тады немцы ўпершыню выкарыстоўвалі атрутны газ «Цыклон Б». Для спальвання ахвяр тут было 5 печаў. Толькі 3 і 4 лістапада 1943 года забіта да 43 тысяч яўрэяў (18 тысяч з іх — у Майданеку).

Аўтары кнігі лічаць за лепшае, што называецца, даць магчымасць выказацца фактам. Яны не прамаўляюць гучных і нават трагічных слоў. Але тое, што засведчылі, вымушае рабіць гэта. Мы знаёмімся з помнікамі, з месцамі пахаванняў, з брацкімі магіламі не толькі ў Германіі, але і амаль ва ўсіх краінах Еўропы. А гэта і савецкі мемарыял Амрас у Аўстрыі, і могілкі-маўзалей у Варшаве, і манумент-помнік на гары Гелерт у Венгрыі, брацкая магіла на Вакавіцкіх могілках у Чэхіі, мемарыял Монтэ-Касіна ў Італіі…

Пераканаўчым працягам тэксту сталі шматлікія фотаздымкі. Яны не толькі дакументальна пацвярджаюць сказанае, але і яскрава дапаўняюць яго, становяцца працягам прачытанага. І наогул хочацца гаварыць нават не пра ўдалае афармленне гэтага выдання, а пра своеасаблівы дызайн помніка, якім стала сама кніга. Мне пра яе духоўны сэнс асабліва прыемна гаварыць, бо яшчэ ў верасні мінулага года газета «СБ — Беларусь сегодня» надрукавала мой артыкул, які тычыўся неабходнасці стварэння грамадскага аб'яднання абаронцаў памяці і праўды пра Вялікую Айчынную вайну. Дзякуючы намаганням энтузіястаў з'явіліся Мінскае гарадское і Гомельскае абласное аб'яднанні. Спадзяюся, што неўзабаве будзе створана і рэспубліканскае. Многае для ўшанавання памяці герояў і ахвяр вайны зроблена і робіцца ў Беларусі. А вось тое, што за межамі нашай краіны ў апошні час выклікае ўсвядомленую трывогу. Вось чаму «Жыць і помніць» — вельмі своечасовае і неабходнае выданне. Нават калі б у нас не існавала прэміі «За духоўнае адраджэнне», то яе трэба было б заснаваць, каб адзначыць аўтараў кнігі.

**Ізяслаў КАТЛЯРОЎ**

*Штрыхі*

# Ад полацкай крынічкі



Мы падымаліся па драўляных прыступках да Сафіі. Яе вежы-рукі высока ўздымаліся да неба, і яна нібы запрашала нас. Але мы не спяшаліся. І не толькі таму, што старэйшаму, пісьменніку і салдату Алесю Ануфрыевічу Савіцкаму, было за дзевяноста. Хацелася затрымацца ля крынічкі, якая тут, ля падножжа старажытнага Сафійскага сабора, весела бруіла, не зважаючы на людскі паток. І так — сотні гадоў, цэлыя вякі, выплёскваючы сваю жыватворную гаючую сілу з зямлі і вяртаючы зноў у зямлю.

Памятаю, у школе нам казалі, што гэта забабоны, што піць гэтую ваду нельга, а казкі пра яе цудадзейную сілу расказваюць цёмныя і непісьменныя людзі. Гэта выглядала нават крыху падобным на праўду, бо літаральна побач з Сафійскім саборам былі бальнічныя карпусы, і хворыя таўкліся ля гэтай самай крынічкі, набіраючы ваду ў слоікі, а то і чэрпаючы проста далонямі.

Я ведаў, што сам нарадзіўся тут, у гэтым месцы, дзе быў некалі полацкі радзільны дом, і, калі мяне, школьніка, паклалі ў бальніцу на абследаванне, майскімі цёплымі днямі ўзіраўся з высокага пагорка ў тое месца, дзе рэчачка Палата ўпадае ў шырокую Дзвіну. Аднойчы падышоў да крынічкі, пастаяў і нерашуча падставіў далоні пад бруісты паток. Вада аказалася прахалоднай і надзіва чыстай. Я паднёс далонь да вуснаў і нібы адчуў свежае дыханне, нібыта з-пад самай зямлі нехта захацеў наталіць маю смагу, такую жаданую пад шчодрым веснавым сонцам…

Барысавага каменя каля Сафійкі яшчэ не было, не прывезлі і не паставілі яго тут, выцягнуўшы з Дзвіны, з надпісам, які належаў полацкаму князю: «Божа, памажы рабу свайму Барысу». Гэта цяпер стаіць ён на дзвінскім высокім беразе, адшліфаваны людскімі далонямі, бо хутка распаўсюдзілася павер'е, што кожнаму, хто дакранецца да яго, будзе ў жыцці шчасце і ўдача.

Унізе, на набярэжнай, стаяла драўляная хата, дзе жыў мой сусед па бальнічнай палаце — равеснік Алег, і мы бегалі да яго глядзець футбол, калі ўпершыню кіеўскае «Дынама» заваявала еўрапейскі Кубак кубкаў.

Хата гэта, дарэчы, засталася і па сённяшні дзень. Закінутая і амаль струхлелая, яна не вельмі пасуе пейзажу гістарычнага цэнтра. Сёння побач з ёй месціцца аўтамабільная пляцоўка, на якой спыняюцца турыстычныя аўтобусы.

Не ўяўляў я яшчэ тады, што праз колькі гадоў буду разам з сябрамі выносіць насілкамі друз з Сафійскіх сутарэнняў, калі пачаліся рэстаўрацыйныя работы, што ў старажытных сценах магутна загучыць арган, што крынічку агародзяць і добраўпарадкуюць… Што за гонар і шчасце пабываць тут будуць лічыць і знакамітыя земляткі, і выбітныя асобы, і шматлікія госці з розных краёў.

Колькі высілкаў нашаму пакаленню трэба было прыкласці, каб зразумець, што Полацк — гэта наш агульнабеларускі гонар, пачатак слаўнай гісторыі, калыска нашай дзяржаўнасці! І не толькі зразумець, а старацца пераканаць тых, хто яшчэ не напоўніцу адчуў адказнасць за тое, каб захаваць гэтую веліч для сучаснікаў і нашчадкаў, бо яшчэ нямала праблем у горадзе, пра вырашэнне якіх трэба дбаць. Усім важна ўсвядаміць, што Полацк — гэта не райцэнтр, не правінцыяльны гарадок, а сапраўдная культурная сталіца, і падыход павінен быць адпаведны.

Пра гэта гаварылася нядаўна і на абмеркаванні грамадскасцю ў Мінску, пра гэта не раз гаварыў мой славуты зямляк Алесь Савіцкі, які нядаўна пакінуў свой перадсмяротны запавет, каб яго прах навечна захаваўся ля полацкай Сафіі, непадалёк ад бруістай чыстай крынічкі.

Ад гэтай вечнай крынічкі трэба чэрпаць сілу і гонар за сваю зямлю, за слаўных продкаў, якія пакінулі нам памяць, што напаўняе нас імкненнем да светлага і прыгожага, як велічны полацкі сабор, чыстага і гаючага, як яе бруістая вада.

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

*Маладзічок*

# Дарослыя пытанні дзіцячай літаратуры

**«Круглы стол» на тэму «Перспектывы развіцця дзіцячай літаратуры ў Беларусі» прайшоў у адной са сталічных кнігарняў. Удзел у абмеркаванні ўзяла вядомая шведская дзіцячая пісьменніца Юя Віcландэр.**

Юя Віcландэр наведала Мінск ужо трэці раз, таму дастаткова добра знаёмая з беларускай літаратурай, асабліва дзіцячай. Пісьменніца адзначыла, што ў адрозненне ад Беларусі ў Швецыі існуе Акадэмія дзіцячай кнігі, якая ладзіць мноства акцый і імпрэз для прапаганды чытання. Сёння дзеці шмат часу і ўвагі надаюць інтэрнэту, камп'ютарным гульням, але пры гэтым продажы дзіцячых кніг у Швецыі не зніжаюцца, а, наадварот, растуць. Асаблівым попытам там карыстаюцца выданні з поўнастаронкавымі малюнкамі. Гэта сведчыць пра клопат бацькоў, якія занепакоены камп'ютарызацыяй, таму набываюць многа цікавых і якасных кніг для сваіх дзяцей.

На думку Юі Віcландэр, папулярнасць скандынаўскай літаратуры можна патлумачыць дзвюма прычынамі. Першая — Астрыд Ліндгрэн, менавіта яна вывела шведскую літаратуру, асабліва дзіцячую, на міжнародны ўзровень. Другая — дзяржаўная палітыка, у якой шмат увагі надаецца адукацыі і выхаванню дзяцей. Цягам апошняга дзесяцігоддзя назіраецца росквіт шведскай дзіцячай літаратуры: з'яўляюцца маладыя аўтары, таленавітыя мастакі і дызайнеры. Але дзяржаўнай падтрымкі дзіцячай кнігі, такой, як у Беларусі, у Швецыі няма. Існуе толькі традыцыя набываць праз мясцовы бюджэт выданні для дзяцей у радзільныя дамы — як падарункі кожнаму нованароджанаму.

Прэмій па дзіцячай літаратуры, па словах Юі Віcландэр, у Швецыі няшмат. Затое існуе своеасаблівы «дзіцячы Нобель» — прэмія памяці Астрыд Ліндгрэн. Праўда, шведы ўпершыню атрымалі яе толькі летась. У прэміі «Аўгуст» таксама ёсць намінацыя «Дзіцячая літаратура», але яна, нягледзячы на тое, што істотна ўплывае на продажы, мае толькі сімвалічны характар.



*Фота з сайта family.by*

*Шведская пісьменніца Юя Віcландэр.*

Крыху распавяла спадарыня Юя і пра гісторыю з'яўлення серыі кніг пра Маму Му. Дарэчы, чатыры кнігі цыкла ўжо пабачылі свет у перакладзе на беларускую мову Надзеі Кандрусевіч (выдавецтва «Мастацкая літаратура»). Спачатку ў Юі нарадзілася задума напісаць песню пра карову, якая навучылася чытаць. Пазней пісьменніца з мужам зрабілі каля сотні радыёперадач пра Маму Му. І толькі пасля выйшлі кнігі. Цяпер рыхтуецца да выдання новая серыя кніг, дзе будзе мінімальны тэкст, набліжаны да аднаго паэтычнага радка, і поўнастаронкавыя ілюстрацыі.

Аксана Спрынчан, супрацоўніца выдавецтва «Мастацкая літаратура», падчас абмеркавання распавяла пра асаблівасці дзяржаўнага фінансавання кнігавыдавецкай галіны ў нашай краіне:

— Дзяржаўная датацыя выдаецца не на ўсе кнігі для дзяцей. Яна ўплывае ў асноўным на выніковы кошт прадукту. Як правіла, без дзяржаўнай падтрымкі кнігі атрымліваюцца дастаткова дарагімі, таму далёка не ўсе патэнцыяльныя пакупнікі наважваюцца іх набываць. Адметна, што выдавецтва «Мастацкая літаратура» шмат увагі надае мастацкаму афармленню, кніжнай графіцы, што таксама ўплывае на кошты.

Пісьменніца Вольга Гапеева адзначыла, што выданні для дзяцей — такая сама сур'ёзная літаратура, таму, ствараючы дзіцячую кнігу, нельга нічога спрашчаць, думаць, што маленькія чытачы не разумеюць. Толькі шчыра напісаная кніга можа прывабіць як дарослага, так і дзіця.

Прыватныя выдаўцы, якія прынялі ўдзел у абмеркаванні, адзначылі, што галоўная праблема кніжнага рынку Беларусі ў цэлым і рынку дзіцячай літаратуры ў прыватнасці — у адсутнасці аналітыкі. Калі няма лічбаў продажаў па дзяржаўных і прыватных выдавецтвах, то гэта вырашальна. Але галоўны на рынку — расійскі выдавец, які прывозіць свае кнігі з-за мяжы. Адсочваць ягоныя продажы вельмі цяжка, а без статыстыкі аналіз рынку немагчымы.

Пасля завяршэння дыскусіі адбыўся паказ лялечнага спектакля пра Маму Му і сустрэча Юі Віcландэр з маленькімі чытачамі.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

*Чытальная зала*

# Імгненні сонца, росаў і дажджу

**Зборнік вершаў паэтэсы Лёлі Багдановіч «Вясёлкавы масток» выдадзены сёлета Беларускай асацыяцыяй «Конкурс». Адрасавана кніга найперш пераможцам гульні-конкурсу па беларускай мове і літаратуры «Буслік-2015».**




У анатацыі пазначана: «Кніга вучыць дабрыні, спагадзе, сяброўству, уважлівым адносінам да ўсяго, што нас акружае». Вось тут і знаходзіць пацверджанне думка пра тое, што дзіцячы пісьменнік, а тым больш паэт, — гэта педагог і псіхолаг адначасова, бо падабраць прыдатны ключык да шчырай і даверлівай дзіцячай душы не так лёгка, як здаецца на першы погляд.

Зборнік, які складаецца з шасці раздзелаў, змяшчае вершы і загадкі. У цэнтры ўвагі аўтара — матчына любоў, таямнічы свет дзяцінства, змена пораў года, з'явы прыроды, духоўная сувязь з родным краем. Не чужы Лёлі Багдановіч і гумар. Як, напрыклад, у вершы «Вераб'і спрачаліся»:

*Вераб'і, адразу тры,*
*Ў лужыне купаліся,*
*Ды згубілі тры пяры.*
*Дзе чыё — спрачаліся…*

Зразумелымі дзецям словамі паэтэса тлумачыць паняцце радасці: «Што такое радасць? — / Калі мама побач. / Калі зарападам / Заіграе поўнач» («Зарапад»). Але з пазітыўным пачуццём на старонках кнігі суседнічае процілеглае: «Як у мяшку, пануры дзень, / Штурхае сум у плечы… / Размову сумную вядзе / Такі ж пануры вечар» («У роспачы надзей»).

Ёсць тут і радкі пра настаўнікаў, школу, канікулы, а яшчэ — пра нашу краіну і матчыну мову, якую аўтарка «ўвабрала з малаком», якая ёй «сэрца гоіць і душу». Лёля Багдановіч успамінае Асіповічы, родных, матчыну хату ў вёсцы Градзянка… А вось словы, якія раскрываюць сэнс назвы кнігі: «Наша мова жураўвінкай / І вясёлкавым мастком / Лашчыць кожную хвілінку…» Вобраз вясёлкавага мастка — гэта ўвасабленне светапогляду паэтэсы, яе настрою, памкненняў, веры ў заўтрашні дзень.

**Яна ЯВІЧ**

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

# «Лістапад» — адкрыццё ўсіх межаў!

## АНЕСТЭЗІЯ ДЛЯ ДУШЫ ЗА АДЗІН ТЫДЗЕНЬ

Дэвіз сёлетняга «Лістапада» — «Задавальненне для вачэй». Фраза запазычаная ў выбітнага французскага рэжысёра Франсуа Труфо. Сутнасць у тым, што праўдзівыя знаўцы кіно імкнуцца бачыць не толькі ігру акцёраў, але і, напрыклад, чарганне святла і ценю ў кадрах, акцэнты, зробленыя пры мантажы, сімвалы, схаваныя ў мізансцэне, словам, усё, з чаго складаецца мова кожнага асобнага фільма.

Усяго ў фестывалі прымалі ўдзел 184 карціны з 60 краін (у мінулым годзе было 47 — фармат пашыраецца!). У іх ліку — 91 ігравы фільм, 70 неігравых, 23 анімацыйныя. Пляцоўкамі для паказаў сталі кінатэатры «Масква», «Цэнтральны», «Перамога», «Піянер», «Мір».

Конкурсная праграма традыцыйна складаецца з некалькіх секцый: ігравое кіно (асноўны конкурс і конкурс дэбютных фільмаў «Маладосць на маршы»), дакументальнае кіно (асноўны конкурс і конкурс нацыянальных кінашкол), конкурс фільмаў для дзіцячай і юнацкай аўдыторыі «Лістападзік», нацыянальны конкурс (гульнявыя, дакументальныя і анімацыйныя фільмы). Прыярытэт — творам з краін былога СССР. Заблытацца ў сеансах праз іх разнастайнасць — прасцей простага. У добрым сэнсе слова. Бо «Лістапад» — гэта не толькі больш за 200 кінапаказаў за сем дзён, але і зносіны з аўтарамі, майстар-класы, рэтраспектыва, пазаконкурсныя фільмы...

Што хацелі данесці да гледачоў рэжысёры? Гісторыі розных людзей, часта трагічныя, але блізкія, сапраўдныя. Чалавек выводзіць на шпацыр сабаку і не вяртаецца, а вядомая актрыса спрабуе вярнуць сына, якім шмат гадоў таму ахвяравала дзеля кар'еры. Загадкавы метэаролаг урываецца ў мерны побыт сям'і качэўнікаў, якія разводзяць коней у маляўнічых гарах Кыргызстана. Маскоўская бізнес-эліта змагаецца з крызісам сучаснасці, калі «усё нібыта нармальна, але нешта не так», не хапае душэўнасці і шчырай веры ў мару. Дзяўчынка, якая пакутуе праз нясупынныя сваркі бацькоў, жыве ў сваім маленькім свеце фантазій, дзе раптам з'яўляецца вясковы юнак і… стрэльба з аптычным прыцэлам. Шчаслівая пара, прыехаўшы ў новую хату, сутыкаецца з нячыстай сілай, а 17-гадовая стваральніца вершаў марыць пра акрабатычныя палёты... Аналізаваць усё няма сэнсу: хто хацеў убачыць сваё кіно — ужо атрымаў порцыю эстэтычнай асалоды. Праўда, нельга не згадаць фільм закрыцця, які можна ўбачыць сёння, — «Найноўшы завет». Бельгійска-французскі рэжысёр Жако Ван Дормель распавёў кранальную і павучальную гісторыю пра Бога, які існуе сярод нас нібы звычайны чалавек. Ці не позна змяніць сваё жыццё? Здаецца, гэтым пытаннем задаюцца амаль усе героі прадстаўленых кінастужак.

У нацыянальным конкурсе «Лістапада» таксама ўзялі ўдзел шматлікія беларускія карціны — ігравыя, дакументальныя і анімацыйныя. Сярод маладых рэжысёраў, на думку арганізатараў кінафоруму, асабліва вылучаецца Мікіта Лаўрэцкі, які здымае фільмы без бюджэту, для YouTube, але са сваім асаблівым бачаннем («Беларускі псіхапат», «Паэзія» і «Амерыкан бой»). У спісе беларускіх фільмаў-удзельнікаў значыцца «ГараШ» Андрэя Курэйчыка, «Фартуна» Івана Маслюкова, «Хранатопь» арт-групы «Хранатоп», «Беларусь якая» Улады Сяньковай і Святланы Сакалоўскай, «Шлях у Дамаск» Арцёма Лобача, «Колер Сонца» Таццяны Гаўрыльчык, «Яно» Генадзя Буто, «ОБНЦБНЧА» Максіма Лушчыка і многія іншыя.

## ЯПОНСКАЕ ПАСЛАННЕ І ПЕРШЫ САВЕЦКІ БЛАКБАСТАР

«Лістапад» вызначыўся таксама сваімі рэтраспектывамі. Па-першае, паказам лепшых работ да 120-годдзя японскай кінакампаніі «Сёцiку» (*Shōchiku*). Усе фільмы дэманстраваліся на кінастужцы 35 мм — так, як іх бачылі ў мінулым — у першароднай якасці! Можна было паглядзець шэдэўры такіх майстроў, як Акіра Курасава, Ясудзіра Одзу, Сёхэй Імамура, Ёсітара Намура, Кэндзі Мідзогуці і іншых аўтараў. У ліку кінастужак — драмы «Гісторыя Хаціка» і «Такійскае змярканне», псіхалагічны трылер «Крэпасць з пяску». Пра ўласна фільмы, а таксама сакрэт поспеху японскай кінастудыі на адной з сустрэч у рамках кінафоруму распавёў гісторык кіно Макіко Камія.

Па-другое, гледачы змаглі ўбачыць першы савецкі блакбастэр і мноства іншых твораў легендарнай кінастудыі імя М. Горкага, якая падарыла нам фільмы «А зоры тут ціхія», «17 імгненняў вясны», «Ціхі Дон». Рэтраспектыва таксама прымеркавана да юбілею. «Фабрыцы» залатых твораў айчыннага кінематографа споўнілася сёлета без малога 100 гадоў. У Мінску пад акампанемент жывой музыкі паказалі «Аэліту», першы савецкі навукова-фантастычны блакбастэр, дзеянне якога разгортваецца ў СССР і на Марсе, авантурную камедыю «Працэс пра тры мільёны» Якава Пратазанава, а таксама эксцэнтрычную стужку «Пацалунак Мэры Пікфард» Сяргея Камарава.

## РЭАЛЬНЫ АБМЕН

Навінай 22-га кінафоруму ў Мінску стала адкрыццё індустрыяльнай панэлі, закліканай стварыць умовы для прадуктыўных зносін прафесіяналаў у сферы кіно — дыстрыб'ютараў, рэжысёраў, прадзюсараў, як сталых, так і пачаткоўцаў. Сустрэчы ўключалі адкрытыя дыскусіі, прэзентацыі і «круглыя сталы» — абмеркаванне фестывальнай стратэгіі, вытворчасці і прасоўвання кінапрадукту, знаёмства з тэндэнцыямі сусветнай кінасупольнасці.

## ДАБРЫНЯ І СУМЛЕННАСЦЬ

Важная справа папулярызацыі кінамастацтва для маленькіх і юных гледачоў даручана арганізатарам і ўдзельнікам фестывалю дзіцячых і юнацкіх фільмаў «Лістападзік», які праходзіць у межах міжнароднага кінафоруму «Лістапад». Удзельнікамі сталі восем ігравых стужак, не лічачы пазаконкурсных паказаў, а таксама два мультфільмы — з Беларусі, Расіі, Нідэрландаў, Германіі, Італіі, Францыі, Эстоніі, Фінляндыі, ЗША, М'янмы, Швейцарыі, Канады. Ад нашай краіны прадстаўлена стужка «Неверагоднае перамяшчэнне» Аляксандра Анісімава. Пераможцы ўжо вызначаны.

Адкрыццё «Лістападзіка» сёлета суправаджалася яркай забаўляльнай праграмай — танцавальнымі перформансамі, неонавым шоу, флэш-мобам. Першым фільмам, які змаглі ўбачыць дзеці і іх бацькі, стала сямейная карціна «Дзівак» аўстралійскага рэжысёра Сцюарта Макдональда пра сабаку, якая дастаўляе шмат клопатаў сваім гаспадарам. Гэтая кінааповесць пацвярджае той факт, што жывёлы, як і людзі, здольныя на сапраўдныя подзвігі.

Прыз «За лепшы фільм для дзяцей» атрымала італьянска-французская карціна Габрыэле Сальваторэса «Хлопец-невідзімка», а прыза «За лепшы фільм для юнацтва» ўдастоілася стужка «Чэснае піянерскае-2» расійскага рэжысёра Аляксандра Карпілоўскага. Яна ж атрымала ўзнагароду «Залаты Лістападзік» па выніках галасавання гледачоў.

Акцёр фільма «Чэснае піянерскае-2» Сямён Траскуноў заваяваў прыз за лепшую дзіцячую ролю. У дарослым акцёрскім складзе першай стала Валерыя Галіна, якая сыграла ў «Хлопцы-невідзімку». Акрамя таго, дыпломам «Спецыяльнае ўпамінанне» адзначаны фільм «Залатое каралеўства», створаны сумесна ЗША і М'янмай, рэжысёрам якога стаў Браен Перкінс.

Арганізатарам «Лістапада» выступіў Цэнтр візуальных і выканальніцкіх мастацтваў «АРТ Карпарэйшн», заснавальнікамі — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт пры ўдзеле Белтэлерадыёкампаніі, Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм», Беларускага саюза кінематаграфістаў. Хутка стане вядома, хто ж будзе ўганараваны галоўнымі ўзнагародамі форуму.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Фарфоравыя німфы, ці Абаянне мадэрну

Выстаўка «Срэбнае стагоддзе» са збораў вядомых мінскіх калекцыянераў (ад Андрэя Сяргеевада Ігара Сурмачэўскага) праходзіць у Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь. Перамесцімся на цэлае стагоддзе ў мінулае — бурлівы пачатак 1900-х гадоў, калі з'яўленне тэлефонаў, аўтамабіляў і іншых тэхнічных радасцей сумяшчаецца з неверагодна вытанчаным, поўным таямніц стылем у літаратуры, музыцы, кіно і мастацтве, які праіснаваў усяго 25 гадоў — да пачатку Першай сусветнай вайны.

Французы называюць яго ар-нуво, рускія — мадэрнам, палякі — сецэсіёнам. Новыя формы, блізкія да раслiннага свету, натуральныя прыродныя лініі, смелае спалучэнне матэрыялаў, дынамічныя сюжэты, разняволены эратызм, японская экзотыка — у мастакоў нарэшце з'явілася свабода! Што ж змянілася ў свядомасці творцаў, якія пачалі выконваць свае «партыі» на зусім іншых «інструментах»?

Экспазіцыя ўключае як творы друку, так і вырабы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, упрыгожванні інтэр'ера і прадметы побыту пачатку ХХ стагоддзя ў асноўным з Францыі, Германіі, ЗША, Польшчы, Чэхіі, Расіі і Беларусі. Какетлівыя і раскаваныя, мілыя і далікатныя, дзёрзкія і цнатлівыя жаночыя вобразы — вось, што першым кідаецца ў вочы, праходзіць лейтматывам праз увесь вернісаж. Амаль у кожным прадмеце, ці гэта ваза з фарфору ці паштоўка да Каляд, адчуваецца дух жаноцкасці.

Дырэктар Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі Алег Рыжкоў падкрэсліў, што музейныя залы цалкам адкрыты для калекцыянераў, а выстаўка «Срэбнае стагоддзе» стала ўпэўненым крокам на шляху да супрацоўніцтва. «У ідэале неабходна і далей арганізоўваць сумесныя праекты, раскрываць той ці іншы перыяд жыцця людзей, выкарыстоўваючы як музейныя фонды краіны, так і прыватныя зборы. Менавіта такое спалучэнне дазволіць больш поўна раскрыць багацце гісторыі і традыцый розных народаў свету», — адзначыў дырэктар музея.





Дзяўчына ў сэтачнай сукенцы-футляры, у вытанчаным капялюшыку… Лэдзі, загорнутая ў мяккія прасціны ў ранішнім будуары, якая вядзе размову з анёламі, — гэтыя вобразы можна ўбачыць як на хромалітаграфіях, эстампах, гравюрах, так і на паштоўках. Аўтары апошніх (Макс Брунінг, Харысан Фішэр, Лу Маер, Тадэвуш Стыка), здаецца, прадбачылі неверагодную славу Марлен Дзітрых і Мэрылін Манро. Інакш як растлумачыць падабенства іх муз з дзівамі, якія сталі сусветна вядомымі праз некалькі дзясяткаў гадоў?

Вылучаецца на агульным фоне творчасць Сяргея Саломкі: ягоныя паштоўкі з выявай рускіх казачных вобразаў, царэўнамі і багатырамі ў народных строях, шчодра ўпрыгожаных вышыўкамі.

Асобная частка экспазіцыі прысвечана вокладкам папулярных у 1900-х гадах часопісаў «Юнацтва» («*Jugend*»), «*Harper's Weekly*», дзе адлюстраваны як злавесныя кентаўры з дэманамі і блазнамі, так і дамы ў капялюшыках, падобных да кветак, — многія з іх з'яўляюцца рэпрадукцыямі карцін вядомых у той час мастакоў.

Дзмітрый Сярэбранікаў, аўтар праекта «Срэбнае стагоддзе», адзначыў на адкрыцці, што выпадковых прадметаў у экспазіцыі няма — усе праходзілі сур'ёзны адбор. «У першую чаргу я хацеў паказаць на фоне прадметаў і твораў вядомых сусветных мастацкіх цэнтраў значнасць беларускага мастацтва, якое брала актыўны ўдзел у развіцці ўсёй еўрапейскай культуры», — сказаў Дзмітрый.

У экспазіцыі сапраўды можна ўбачыць прадметы, выпушчаныя на тэрыторыі Беларусі ў пачатку ХХ стагоддзя. У іх ліку — узоры фірмовых бланкаў беларускіх фотастудый. Звяртае на сябе ўвагу таксама і гліняная кафля мінскага завода ганчарных вырабаў Ільі Авербуха.

Звернемся да дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Сучасныя дамы і спадары не сервіруюць стол з дваццаці прыбораў. Гледзячы на вазачку для печыва ці парцалянавую цукарніцу, аздобленую золатам, якая прыехала з дарэвалюцыйнага Санкт-Пецярбурга, можна ўявіць, што для людзей мінулай эпохі мастацтва было чымсьці накшталт штодзённага рытуалу. Усё з густам: бісквіты — у шкляной каляровай пасудзіне ручной працы, духмяныя ружы — у вазе, што нагадвае флейту, пісьмовыя сталы з фігуркамі ў выглядзе багоў, німфаў і дзікіх звяроў, флаконы для парфуму як сувеніры (выглядалі яны проста шыкоўна!).

Месцы, адкуль прыбылі ўсе гэтыя прадметы, заслугоўваюць павагі, — Фабрыка Гарднэра ў Маскве, Каралеўская фарфоравая мануфактура ў Берліне... Зрэшты, лепш адзін раз убачыць! Экспазіцыя будзе даступная да 7 снежня.

**Марыя ВОЙЦІК, фота аўтара**

**Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»**

# «Спіце, салдацікі, ціха пад хвоямі»

**Шосты аўтапрабег па месцах Першай сусветнай вайны, прысвечаны 100-годдзю вызвалення Вілейшчыны ад кайзераўскіх войскаў, прайшоў сёлета па новым маршруце. Удзельнікі акцыі, а іх было значна больш, чым летась, наведалі памятныя мясціны, размешчаныя на тэрыторыі Іжскага сельсавета, і ўжо традыцыйна — лазарэтныя могілкі, Барысаглебскую капліцу і музей Першай сусветнай вайны ў вёсцы Заброддзе.**



Мемарыяльны комплекс у вёсцы Рускае Сяло.

## ВЯЛІКАЯ ЕЎРАПЕЙСКАЯ БОЙНЯ

Першая сусветная вайна, у якой удзельнічалі 38 краін, працягвалася чатыры гады і тры месяцы, забрала жыцці 10 мільёнаў чалавек, 20 мільёнаў былі паранены і скалечаны — свет не ведаў яшчэ такіх ахвяр. 11 лістапада 1918 года, калі было падпісана Кампʼенскае перамірʼе, лічыцца днём заканчэння Першай сусветнай і адзначаецца ва ўсім свеце як Дзень памяці яе ахвяр і прымірэння.



Прамаўляе Барыс Цітовіч.

Аўтапрабег зладзіў Фонд памяці Першай сусветнай вайны «Крокі», якім кіруе лаўрэат прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «За духоўнае адраджэнне», член Беларускага саюза мастакоў, вядомы ў нашай краіне і за яе межамі даследчык падзей Першай сусветнай Барыс Цітовіч. Дарэчы, нядаўна Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ўручыў Барысу Барысавічу ордэн Францыска Скарыны за працу ў галіне мастацтва, гісторыі і культуры.

31 кастрычніка з цэнтральнай плошчы Вілейкі ў няблізкі шлях выправіліся прадстаўнікі клубаў ваенна-гістарычнай рэканструкцыі «Эпоха» (Мінск) і «Мяжа» (Брэст), Беларускага ваенна-гістарычнага клубнага абʼяднання «Гонар мундзіра» (Гомель), казакі Вілейскага раённага аддзела «Усебеларускага казацтва» і Старадубскага казачага палка Бранскай вобласці (Расія), ветэраны вайны ў Афганістане, моладзь, школьнікі, госці з Маладзечна, Мінска і жыхары Вілейшчыны. Сёлетні аўтапрабег адрозніваўся ад мінулагодняга. «Крочым па новых месцах, дзе працу толькі што закончылі. На некаторыя пахаванні не паедзем, бо яны знаходзяцца вельмі далёка — у лесе», — заўважыў Барыс Цітовіч.

Першы прыпынак — каля гарадскіх могілак, дзе нядаўна асвяцілі браму-капліцу ў гонар воінаў, што загінулі пры вызваленні Вілейкі ў 1915 годзе.

— Раней на гэтым месцы знаходзіліся брацкія і салдацкія магілы, на жаль, час распарадзіўся так, што паверх іх цяпер іншыя пахаванні, — распавёў Барыс Цітовіч. — Але ў такім суседстве няма нічога страшнага. Брама-капліца ўзведзена, з аднаго боку, у памяць пра тых, хто аддаў сваё жыццё, каб мы сёння жылі ў міры і згодзе, а з другога — на сцены капліцы нанесена 286 імёнаў воінаў, якія ўдалося ўстанавіць у ваенна-гістарычным архіве.

Сярод удзельнікаў аўтапрабегу — пісьменнік Вячаслаў Бандарэнка, нераўнадушны да падзей стагадовай даўніны. Нядаўна ён прэзентаваў у Вілейцы сваю кнігу «Заходні шчыт Расійскай імперыі 1915 — 1917». А яшчэ раней выдаў серыю пра Першую сусветную. Роўна 100 гадоў таму ваколіцы Вілейкі вызвалялі часці, якімі камандаваў прадак Вячаслава — генерал-маёр Міхаіл Міхайлаў, які атрымаў высокую ўзнагароду — ордэн святога роўнаапостальнага князя Уладзіміра ІІ ступені.

— Як склаўся яго лёс, не ведаю, — вядома толькі, што напрыканцы 1917 года ён быў яшчэ жывы, — расказаў Вячаслаў. — І вельмі добра, што ёсць гэтая капліца. Лічу яе не толькі помнікам салдатам, якія загінулі пры вызваленні Вілейкі, але і сімвалічнай магілай майго продка.

Паводле старшыні Вілейскага раённага Савета дэпутатаў Наталлі Радзевіч, на Вілейшчыне шануюць памяць абаронцаў Айчыны. Нядаўна тут прайшлі ўрачыстыя мерапрыемствы, зладжаныя да 100-годдзя з дня заканчэння Першай сусветнай вайны. У іх межах адслужана памінальная літургія, былі ўзгаданы прозвішчы воінаў. Адбылася прэзентацыя кнігі навуковага супрацоўніка Вілейскага краязнаўчага музея Андрэя Карготкі «На линии огня. Очевидцы в боях за Вилейку в сентябре 1915 года», прысвечанай падзеям Першай сусветнай. Жыхары раёна і працоўныя калектывы, як паведаміла Наталля Аляксандраўна, зрабілі значны ўнёсак у будаўніцтва капліцы.

На пліце капліцы змешчаны таксама радкі з верша вілейскага паэта Уладзіміра Цануніна, прысвечаныя загінуўшым. Уладзімір Яфімавіч, які браў удзел у мерапрыемствах, сам іх і зачытаў:

*Спіце, салдацікі, ціха пад*
*хвоямі,*
*Роднай дзяржавы сыны.*
*Невыпадкова вы сталі героямі*
*Гэтай Вялікай вайны.*

## НЕ ПА СЛУЖБОВЫМ АБАВЯЗКУ

Пасля кароткай памінальнай малітвы ўдзельнікі аўтапрабегу накіраваліся ў Іжскі сельсавет. У 1915 тут праходзілі ваенныя дзеянні падчас Віленскай аперацыі па ліквідацыі Свянцянскага прарыву, а праз паўгода адбылася Нарачанская наступальная аперацыя.

…Могілкі ў вёсцы Любкі. Пахаванні салдат каля гэтага населенага пункта, як і ў вёсках, дзе ўдзельнікі аўтапрабегу яшчэ пабываюць, сталі забытыя. Сёння яны добраўпарадкаваны, на кожным усталяваны памятныя знакі — дубовыя крыжы і гранітныя пліты з імёнамі вайскоўцаў.

— Дзякуючы мясцовай жыхарцы, якая паведаміла, што яе маці даглядала брацкую магілу, змаглі ўстанавіць стагадовае пахаванне: знайшлі камень з выбітай датай — 1915 год, — зазначыў Барыс Цітовіч.

Удзельнік вайны ў Афганістане падпалкоўнік-авіятар Станіслаў Суша, які нарадзіўся ў Любках, распавёў, што ў дзяцінстве ён разам з сябрамі цікавіўся вайною — вакол жа былі акопы, бліндажы. Зразумела, узнікалі пытанні: што тут адбывалася? калі? «Мы нічога тады не ведалі, а ў школе пра гэта не расказвалі, — успамінае Станіслаў Суша. — Толькі дзядулі ды бабулі нешта ўзгадвалі. Быў дзед Васіль, які расказаў нам, што вось тут, у кутку могілак, пахаваны салдаты, афіцэры. Крыжоў не было, віднеліся адны ўзгоркі… Вось гэта запомніліся на ўсё жыццё. Ніколі нават не думаў, што пройдзе шмат гадоў — і белыя плямы гісторыі пачнуць паціху раскрывацца, вяртаюцца з небыцця забытыя імёны герояў, сярод якіх нямала і нашых продкаў».

Вайна пакінула адбітак і на самой вёсцы Любкі. Мы зрабілі прыпынак на плошчы пасярод паселішча. Адразу ўзнікла думка: мабыць, тут быў рынак. Не, гісторыя зусім іншая. У верасні 1915 года, калі рускія войскі вызвалілі Вілейку і рушылі ў бок азёраў Вішнева і Нарач, тут таксама праходзілі баявыя дзеянні. У выніку цэнтр вёскі згарэў, а людзі пачалі сяліцца вакол папялішча.

У вёсцы Дварэц — таксама два пахаванні. На адным з іх усталяваны дубовы крыж і пліта з імёнамі семярых салдат. Справа ад гэтага месца — тры высоткі, прарэзаныя акопамі. І нават сёння можна ўявіць, якія жорсткія баі тут ішлі. Непадалёк віднеюцца яшчэ 50 магіл.

— Так здарылася, што на гэтыя могілкі шмат гадоў ніхто не прыходзіў, — адзначыла старшыня Іжскага сельсавета Валянціна Навасёлак. — Гэта няправільна. Дзякуючы Барысу Барысавічу і яго паплечнікам несправядлівасць выпраўлена. Не па службовым абавязку, не па зацверджаным плане мерапрыемстваў, а па загадзе сэрца і асабістым рашэнні. Дзякуй за такі прыклад служэння вялікай справе.

У вёсцы Іжа пахаванне знаходзіцца на сельскіх могілках побач з царквой. Тут адноўлена 12 імёнаў загінуўшых. Цікава, што сярод іх — салдат з мясцовым прозвішчам — Рогач. Магчыма, ён родам з гэтых мясцін.

З Іжы ўдзельнікі аўтапрабегу рушылі да мемарыяльнага комплексу ў вёсцы Рускае Сяло. На вялікім кургане — чатырохтонны бетонны крыж з рэльефам Спаса Нерукатворнага. А ў падножжы перазахаваны рэшткі 64 салдат, знойдзеныя побач з вёскамі Навасады, Прынта і Бароўцы.

Праязджаючы па месцах былых баёў, кожны адчуў маштабнасць трагедыі стагадовай даўніны. Але чым больш энтузіясты ўстанаўліваюць пліт з імёнамі, тым больш адкрыццяў робяць. Цікавая акалічнасць: нядаўна стала вядома, хто пакоіцца ў безыменных магілах каля вёскі Рускае Сяло.

Каля кожнага памятнага месца благачынны Вілейскай царкоўнай акругі протаіерэй Аляксандр Шмырко правёў кароткае набажэнства, гучалі тры залпы ў памяць пра загінуўшых. Эмацыянальнай афарбоўкай мясцін спанчыну вайскойцаў сталіся вершы ў выкананні Валянціны Цітовіч, якія напісалі паэты-ўдзельнікі Вялікай еўрапейскай вайны. Асаблівую ўзнёсласць мерапрыемству надалі духоўныя спевы гуртка мужчынская хору Сабора ўсіх святых з Мінска, рэгентам якога зʼяўляецца Зміцер Такмакоў — ураджэнец Вілейкі.

— Добраўпарадкаваннем пахаванняў займалася ініцыятыўная група: Сяргей і Аляксандр Путырскія з вёскі Іжа, Сяргей Якаўлеў з вёскі Нарач, Сяргей Кунавіч і Сяргей Плёска з вёскі Любкі, вілейчанін Станіслаў Суша, — паведаміў Барыс Цітовіч. — Работы праводзіліся пры фінансавай падтрымцы дабрачыннага фонду «Крокі».

Па меркаванні Барыса Цітовіча, лінія фронту павінна быць музеефіцыравана на тэрыторыі ўсёй краіны з мэтай патрыятычнага і духоўнага выхавання моладзі, бо дзякуючы подзвігам салдат мы атрымалі мірнае неба.

**Раіса МАРЧУК,**
**фота аўтара**

### Даведка «ЛіМа»



Месца пахавання салдат Першай сусветнай вайны ў вёсцы Іжа.

«Крокі» — дабрачынны культурна-гістарычны фонд памяці Першай сусветнай вайны, дзейнічае ў Вілейцы тры гады. Заснавальнікі — Барыс Цітовіч, яго жонка і сын — Валянціна і Данііл. Мэта фонду — ушанаванне памяці герояў, ахвяр і падзей Першай сусветнай вайны. Фонд спрые развіццю мемарыяльнага комплексу у Заброддзі, прысвечанага Першай сусветнай вайне, садзейнічае культурна-гістарычнаму абмену паміж народамі. Асноўная задача арганізацыі — музеефікацыя пад адкрытым небам слядоў вайны: узнаўленне помнікаў, добраўпарадкаванне магілак, рэканструкцыя фартыфікацыйных збудаванняў.

# Удмурцкі след на Пухавіччыне

**Доўгі час у маёй хатняй бібліятэцы ў бацькоўскім доме ў Зацітавай Слабадзе захоўвалася падшыўка за некалькі гадоў салдацкай газеты «За Родину». У рэдакцыі гэтага выдання я служыў карэспандэнтам-арганізатарам, пасля, у 1985 — 1988 гады, адказным сакратаром.**

Так склалася, што некаторы час у 1985-м са мною служыў і малодшы сяржант Вячаслаў Сяргееў. Удмурт па нацыянальнасці, ён пісаў артыкулы, рабіў фотаздымкі для газеты, якая выходзіла тройчы на тыдзень.

Удмуртаў у нашай дывізіі, якая рыхтавала папаўненне для Афганістана, было многа. Справа ў тым, што дывізія была сфарміравана ў час Вялікай Айчыннай вайны ў Іжэўску, ва Удмурціі. І, між іншым, вызваляла Віцебшчыну ад фашыстаў. Пра гэта ў кнізе «Чатыры гады ў шынялі» падрабязна расказаў народны пісьменнік Удмурціі Міхаіл Лямін. А ў пасляваенныя гады злучэнне дыслакавалася ў Ашхабадзе, куды і прызывалі штогод хлопцаў з Удмурціі…

Спярша я не ведаў, што Вячаслаў яшчэ да службы ў войску займаўся літаратурай, пісаў апавяданні. А дазнаўся толькі тады, калі ў Ашхабад даслалі кнігу салдата, якая на ўдмурцкай мове пабачыла свет у Іжэўску ў 1986 годзе. Слава яшчэ служыў у Ашхабадзе. Але ўжо не ў рэдакцыі, а ў інжынерна-сапёрнай роце. Некалькі асобнікаў землякі даслалі Вячаславу ў Туркменістан. У 1986-м мы развіталіся. Як аказалася, на доўгія гады. І толькі недзе напрыканцы 1990-х ці ў пачатку 2000-х, выпадкова сустрэўшыся ў Белавежскай пушчы з журналістам з Удмурціі, я даведаўся, што Вячаслаў Сяргееў стаў народным пісьменнікам краіны Вячаславам Ар-Сяргі. У Іжэўску і іншых гарадах Расіі, увогуле Еўропы выйшла многа кніг яго прозы, паэзіі, мастацкіх перакладаў. Піша Вячаслаў па-руску і па-ўдмурцку. Недзе з 2003-га ці з 2004-га пачалося наша ліставанне з колішнім ашхабадскім знаёмцам.

А ў 2008 годзе Вячаслаў Ар-Сяргі быў запрошаны на міжнародны «круглы стол» па пытаннях літаратурных стасункаў у Мінск. Арганізатары «круглага стала» — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь і выдавецтва «Літаратура і Мастацтва». Вячаслаў браў удзел у Днi беларускага пісьменства ў Барысаве. Выступіў перад школьнікамі ў вёсцы Мётча Барысаўскага раёна, а таксама перад навучэнцамі ліцэя ў Смілавічах. Разам з Вячаславам мы пабывалі ў Блоні, Блужы, Зацітавай Слабадзе.

На Пухавіччыне ўдмурцкага літаратара асабліва ўразіў музей Мікалая Чэпіка. З вялікай увагай слухаў пісьменнік расповеды дасведчанага ў пухавіцкай гісторыі Аляксандра Праноўвіча. Пакінуў Вячаслаў Ар-Сяргі свае ўдзячныя запісы ў кнізе наведвальнікаў Пухавіцкага раённага краязнаўчага музея ў Блоні. Быў здзіўлены, колькі паэтаў, празаікаў, творчых людзей падарыла прыгожаму пісьменству, грамадству Пухавіцкая зямля.

А пераначавалі мы адным з тых вераснёўскіх дзён у Зацітавай Слабадзе. І як быў здзіўлены Вячаслаў Ар-Сяргі, калі я паказаў яму падшыўку салдацкай шматыражкі, у якой і ён некалі друкаваўся. А яшчэ — тую першую кніжачку Вячаслава, якая ў мяне захоўвалася з ашхабадскіх часін. Як вынік з тае сустрэчы з Пухавіччынай і нарадзіўся верш удмурцкага паэта — «Зацітава Слабада». Напісаны ён быў на Пухавіччыне. Пакуль што верш не перакладзены на беларускую мову, таму і падаю толькі часткова яго падрадкоўны пераказ. «Раніца сачылася, ваколіца драмала, / У небе пагас адбітак зоркі, / Веснічкі на падворку стомлена зарыпелі / — Я ад'язджаю з цяпла Слабады. / Дзесяць крокаў да чакання аўтамабіля, /



Фота Кастуся Дробава.

*Народны пісьменнік Удмурціі Вячаслаў Ар-Сяргі. Барысаў, 2008 г.*

Я прайшоў як той Ціт, скрозь гады, / І не азірнуўся, іначай бы — / Я ніколі не вярнуўся ў свае гарады. / У садзе падалі яблыкі, / Чуў іх грукат за спінай, / Развітанне рыхтуючы, падалі хвіліны…» І далей: «Як абярэг у дарогу сваю,/ Зацітава святло я ўзяў у зоркі, / Што мару маю акрыляла — / І ў снах я ніколі не пакідаю тую родную Слабаду»…

Болей Вячаславу не даводзілася наведвацца ў Беларусь. Але тут да чытача прыходзяць яго творы. Вершы Вячаслава Ар-Сяргі друкаваліся ў часопісах «Полымя», «Всемирная литература», калектыўных зборніках, якія пабачылі свет у Мінску. Рукапіс вершаванага зборніка ўдмурцкага паэта ў перакладзе на беларускую мову, які ажыццявіў Віктар Гардзей, — у партфелі аднаго з мінскіх выдавецтваў. Будзем спадзявацца, што пакуль кніга будзе ісці да чытача, у яе абсягі дадасца і верш «Зацітава Слабада» пра старажытную пухавіцкую вёску.

Хацелася б нагадаць, што Зацітава Слабада знаёмая і іншым беларускім пісьменнікам — Міхасю Блісцінаву, Алене Кобец-Філімонавай, Уладзіміру Саламаху, Юрыю Сапажкову, Алегу Ждану, Івану Ярашэвічу…

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

*Спадчына*

# Ці актуальны драўляны «тэлевізар»?

**Удзельнікаў Рэспубліканскага навукова-практычнага семінара «Каляндарныя традыцыі беларусаў: вопыт і методыка» ў Інстытуце культуры Беларусі сустракалі не толькі беларускімі народнымі спевамі ды музыкай, але і батлейкай — старадаўнім лялечным тэатрам.**

Арганізатарамі семінара выступілі супрацоўнікі аддзела традыцыйнай культуры і аматарскай творчасці гэтай установы. Асноўная мэта мерапрыемства — абагульненне вопыту праўдзення каляндарных свят і абрадаў у рэгіёнах, сцэнічнае ўвасабленне каляндарна-фальклорнай традыцыі.

Аўтар дапаможнікаў па народным календары і традыцыйным тэатры Алесь Лозка і этнамузыказнаўца, кампазітар і спявак Іван Кірчук прадставілі батлейку. У самім гучанні гэтага слова ёсць штосьці магічнае. У батлеечнай культуры па-свойму ўвасобіліся і менталітэт беларускай нацыі, і гісторыя народаў, якія спрадвеку засялялі нашы землі.

Паступова вяртаюцца ў жыццё, здавалася б, назаўсёды страчаныя віды мастацтва і рамёствы: выцінанка, роспіс па шкле, ткацтва… Наколькі актуальная батлейка сёння, у час інфармацыйных тэхналогій? Ці патрэбна рэаніміраваць стары рэпертуар і аднаўляць ды рэстаўрыраваць гэты драўляны «тэлевізар»?

Іван Кірчук, кіраўнік этнатрыа «Троіца», павандраваўшы па свеце са сваімі надзвычай прыгожымі ды выкшталцонымі лялькамі, сцвярджае, што батлейка і сёння сучасная і актуальная. У гэтым кампактным рухомым старадаўнім тэатры можна падымаць розныя тэмы і праблемы.

Выступленне Івана Кірчука нагадвала сапраўднае чарадзейства. Паказ лялек суправаджаўся гукамі акарыны, дуд ды спевамі. Не забыўся майстар і на практычныя рэкамендацыі.



*Іван Кірчук праводзіць майстар-клас.*

Алесь Лозка распавёў пра новае ў інтэрпрэтацыі пахоДжання каляндарных свят, зладзіў майстар-клас з гасцямі. Атрымаўся невялікі спектакль.

Метадыст Глыбоцкага цэнтра традыцыйнай культуры і народнай творчасці, кіраўнік ансамбля "Цярэшка" Наталля Нікіфаровіч падзялілася практычным вопытам папулярызацыі народных свят. На Глыбоччыне адрадзілі цікавыя абрады «Насіць намётку», «Фэст на Дзядку» і іншыя, што праводзяцца сумесна з духавенствам (як праваслаўнай, так і каталіцкай канфесій).

Загадчык аддзела традыцыйнай культуры Брэсцкага абласнога грамадска-культурнага цэнтра Ларыса Быцко прадставіла праект «Рух жыцця», у якім з'яднаны адметныя абрады: «Піліпаўскія вечары» (ладзяцца ў вёсцы Дарапеевічы Маларыцкага раёна), «Конікі» (візітная картка Давыд-Гарадка).

Завяршыўся семінар традыцыйнымі народнымі танцамі, арганізаванымі падчас майстар-класа кіраўніком харэаграфічнай групы гурта «*GUDA*» Аленай Каліноўскай разам з прафесарам кафедры культуралогіі і псіхолага-педагагічных дысцыплін Інбелкульта Васілём Глубачэнкам.

**Галіна СУША, фота аўтара**

*Млын навін*

# Кедр як сімвал

У Каложскім парку ў Гродне вырасце кедравая алея. Ідэю пасадзіць магутныя дрэвы ініцыявалі члены Гродзенскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі на чале з Людмілай Кебіч. Акцыя «Пакінь свой след прыгожы на зямлі» прымеркавана да першага юбілею пісьменніцкай арганізацыі — дзесяць гадоў. Кедравая алея стане сімвалам супрацоўніцтва абласной пісьменніцкай арганізацыі і Гродзенскага аддзялення Саюза палякаў на Беларусі.

На рахунку дзвюх грамадскіх арганізацый многа сумесных праектаў. Падчас акцыі ў Каложскім парку кіраўнік польскай суполкі Казімір Знайдзінскі падарыў калегам карціны мастака Уладзіміра Бізюка з выявамі польскага Слупска — горада-пабрацімa Гродна — і пажадаў, каб творцы не саступалі ў вынослівасці кедру, якому не страшныя ніякія капрызы прыроды.

**Тамара МАЗУР**

***

Сёння ў Магілёве завяршаецца Міжнародны форум «Традыцыйная культура як стратэгічны рэсурс устойлівага развіцця грамадства», накіраваны на развіццё і ўмацаванне міжнародных культурных сувязей, абмен духоўнымі каштоўнасцямі, досведам працы па захаванні і актуалізацыі нематэрыяльнай культурнай спадчыны, папулярызацыю лепшых традыцый і дасягненняў нацыянальнай, сусветнай культуры і мастацтва.

Як паведамілі ў Магілёўскім абласным метадычным цэнтры народнай творчасці і культурна-асветнай працы, для ўдзелу запрошаны навукоўцы і спецыялісты па вывучэнні фальклору і традыцыйнай культуры з Беларусі, Расіі, Малдовы, Кітая, Азербайджана, Арменіі, Балгарыі, Казахстана і іншых краін.

У межах форуму прайшла Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя «Нематэрыяльная культурная спадчына: сучасны стан, рызыкі і праблемы захавання і актуалізацыі», падчас якой разгледзілі шэраг праблем: нематэрыяльная культурная спадчына падчас гістарычнай трансфармацыі сацыякультурнай прасторы; змены фальклорна-абрадавых форм нацыянальнай культуры і іх сацыяльнай ролі; міжнародны досвед захавання нематэрыяльнай культурнай спадчыны і інш.

**Міра ІЎКОВІЧ**

***

Айчынны пісьменнік Анатоль Зэкаў завітаў да школьнікаў. Вучні 2 «А» класа сталічнай гімназіі № 23 добра падрыхтаваліся: вывучылі вершы на памяць, зрабілі ілюстрацыі да некаторых казак. Разам з настаўніцай Любоўю Карканіцай арганізавалі выставу дзіцячых кніг А. Зэкава, нумароў часопіса «Вясёлка» з яго творамі.

Пачалася сустрэча своеасаблівым апытаннем гімназістаў на тэму «За што я люблю кнігу?». Анатоль Зэкаў распавёў другакласнікам гісторыі са свайго школьнага маленства, прачытаў вершы, загадаў загадкі, нават разыграў невялікі спектакль і, безумоўна, адказаў на пытанні. Цікавымі атрымаліся і сустрэчы пісьменніка з вучнямі малодшых класаў СШ № 182 і старшакласнікамі СШ № 23 г. Мінска.

**Аліна РАЧЫЦКАЯ**

# Іспанскія канікулы

**Пабываць у сонечнай краіне змогуць наведвальнікі Цэнтра сучасных мастацтваў. Тут працуе выстаўка «*Privet Picasso! Viva la Barcelona!*», дзе прадстаўлены работы айчынных мастакоў Ірыны і Анатоля Кузняцовых.**

Экспазіцыя — вынік сёлетняй паездкі аўтараў у Барселону. Натхніўшыся непаўторнай энергетыкай гэтага горада, наведаўшы шматлікія музеі і славутыя мясціны, майстры стварылі рымэйкі твораў выбітных іспанскіх мастакоў XX стагоддзя: Пабла Пікаса, Сальвадора Далі, Антонія Гаўдзі, Жаана Міро, Антоні Тапіеса.



*«Пасля экскурсіі».*

На выстаўцы прадстаўлены жывапіс, інсталяцыі, мастацкае шкло, фотакалажы, арт-аб'екты, аб'ёмна-прасторавыя кампазіцыі. Кожны экспанат — асобная гісторыя з фантастычным сюжэтам. Аўтары прапануюць гледачам сваё бачанне творчасці каталонскіх мастакоў, дзеляцца ўласнымі асацыяцыямі, думкамі, разважаннямі, якія з'явіліся падчас знаёмства з творамі мастацтва і архітэктуры.

Выстаўка здзівіць кожнага: экспанаты выкананыя з нетрадыцыйных матэрыялаў. Старыя непатрэбныя рэчы — чамадан, вешалка, вінілавыя пласцінкі, камп'ютарныя дыскі, прышчэпкі ды іншыя прадметы — набываюць нечаканыя формы.

Творы захоўваюць асаблівую энергетыку паўднёвай краіны. Гледачы змогуць перанесціся ў чароўны свет, дзе жывуць таямнічыя істоты, рознакаляровыя саламандры і міжземнаморскія рыбіны… У некаторых работах лёгка пазнаць славутасці Барселоны: Парк Гуэль, Музей дакалумбавага мастацтва, Дом Бальё, фантаны, якія спяваюць. Экспазіцыя прадстаўляе і некалькі сонечных, яркіх, сакавітых карцін («Размаўляючы з Міро», «Барсы, наперад!», «Барселона. Спяваюць Фрэдзі Мэрк'юры і Мансэрат Кабальє» і інш.).



Фота Кастуся Дробава.

*«Дом Бальё вялікага Гаўдзі».*

Пасля прагляду экспазіцыі, бадай, ва ўсіх з'явіцца жаданне наведаць Барселону і яе славутыя мясціны, бліжэй пазнаёміцца з творчасцю выбітных мастакоў.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# У краіне творцаў

**Палац мастацтва запрашае на выстаўку «Варыяцыі існасці», на якой прадстаўлены творы сяброў Магілёўскай і Бабруйскай арганізацый Беларускага саюза мастакоў.**

Калектыўная экспазіцыя размясцілася адразу ў некалькіх залах Рэспубліканскай мастацкай галерэі. Пад адным дахам сабраныя лепшыя работы сучасных айчынных майстроў — яркіх, крэатыўных, не падобных адзін да аднаго. Дэманструецца жывапіс, графіка, скульптура, а таксама творы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва: кераміка і батык.

Гледачы ўбачаць работы Васіля Пешкуна, Фёдара Кісялёва, Ганны Конанавай, Валерыя Калтыгіна, Алега Ткачова, Алесі Скарабагатай ды іншых мастакоў. Творцы працягваюць багатыя традыцыі беларускай мастацкай школы, закладзеныя знакамітымі папярэднікамі, і адначасова эксперыментуюць, шукаюць новыя формы самавыяўлення. Кожны па-свойму выбудоўвае дыялог з гледачом.



Фота Кастуся Дробава.

*Андрэй Вараб'ёў «Пражытыя гады».*

Творы выяўленчага мастацтва, прадстаўленыя ў экспазіцыі, вылучаюцца тэматычнай і жанравай разнастайнасцю. Яны неаднолькавыя і па настроі: ад напружаных і драматычных, пабудаваных на спалучэннях кантрасных і экспрэсіўных колераў, да спакойных і лірычных, створаных у пастэльных танах. Увазе гледачоў прапануюцца работы, выкананыя ў тэхніках акварэлі, афорту, тушы, акрылу… Сярод іх — гарадскія і вясковыя пейзажы, нацюрморты, партрэты, фантастычныя і побытавыя сюжэты, гістарычныя замалёўкі ды іншае.



*Антон Вырва «Крыгаход».*

Вабяць незвычайныя інсталяцыі, арт-аб'екты, скульптуры, выкананыя з дрэва, бронзы, граніту і мармуру. Экспазіцыю дапоўніў фотапраект Алеся Ліціна «Магілёўскія мастакі ў сваіх майстэрнях»: на здымках можна пабачыць удзельнікаў выстаўкі ў момант стварэння работ.

Экспазіцыя дазваляе адчуць рытм сённяшняга творчага жыцця, прааналізаваць асноўныя тэндэнцыі сучаснага беларускага мастацтва. Творцы даследуюць жыццё вакол сябе, адлюстроўваюць рэальнасць рознымі метадамі. У работах гарманічна спалучаюцца старадаўнія традыцыі і найноўшыя тэхнікі.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Грахі і малітвы

**Выстаўка жывапісу «Дзённік Просьбіта» адкрылася ў Нацыянальным цэнтры сучасных мастацтваў. Аўтар — вядомы славацкі мастак Марэк Ормандзік. Экспазіцыя прапануе паглыбіцца ў філасофію чалавечага існавання, часам жахлівую, а часам надзвычай пранікнёную і духоўную. Кідаецца ў вочы строгая градацыя колераў — перавага крывавага і вугальнага адценняў, якія нібы паглынаюць усе астатнія.**

Куратар вернісажу Пэтэр Мільчак адзначыў: «Падчас знаёмства з выстаўкай узнікае шмат пытанняў і ўражанняў рознай палітры — і пазітыўных, і негатыўных. Але Марэк Ормандзік лічыць, што галоўнае — эмоцыі. Менавіта ў іх мэта мастацтва».

Дарэчы, Пэтэр Мільчак — паэт, педагог і перакладчык, лёс якога цесна звязаны з Беларуссю: некалькі гадоў ён плённа працаваў у Мінску. Але ж вернемся да экспазіцыі, якая займае некалькі залаў. У першай можна сустрэць вобразы адзінокага чалавека, так званага Просьбіта, у розных станах і адценнях настрою — але ў любым выпадку схіленага ў малітве на каленях, месцамі з падазроным чорным німбам над галавой. Ён нібыта толькі нарадзіўся, а можа, наадварот, ужо завяршае жыццё… Яшчэ адна частка праекта мае назву «Святыя за вёскай». Тут прадстаўлены больш маштабныя карціны. У трэцяй зале — серыя аўтарскіх замалёвак, якія нагадваюць папулярны ў сеціве «*dark art*» ці, наадварот, карыкатурныя творы ў стылі камедыі абсурду.

Марэк Ормандзік, па словах дырэктара Цэнтра сучасных мастацтваў Наталлі Шаранговіч, вельмі самабытны і экспрэсіўны творца. «Мастак працуе з вялікімі серыямі карцін. Тое, што мы можам убачыць, — толькі малая іх частка. Ён і кніжны ілюстратар, і дызайнер, і жывапісец. Валодае пэндзлем лёгка, дасканала, упэўнена. Здаецца, што ў гісторыі культуры ёсць аналаг яго карцінам — «Чалавечая камедыя» Бальзака. Марэк Ормандзік таксама расказвае пра страсці і надзеі людзей. Гэты мастак вельмі трагічны, драматычны ўнутрана, але форма яго твораў, якая здаецца наўмысна нядбайнай, малаэстэтычнай, пакідае вельмі глыбокае ўражанне», — дадала Наталля Шаранговіч.

Цяпер Марэк Ормандзік жыве і працуе ў Браціславе, дзе скончыў Акадэмію выяўленчых мастацтваў і дызайну. Экспанавацца пачаў у 1991-м годзе. Удзельнічаў у шматлікіх міжнародных праектах як на радзіме, так і ў Германіі, Румыніі, Балгарыі, Расіі, Чэхіі, Францыі, Японіі і іншых краінах.

Выстаўка праводзіцца ў супрацоўніцтве з Пасольствам Славацкай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь пры падтрымцы галерэі «Артплац».

**Марыя ВОЙЦІК**


**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Намеснік галоўнага рэдактара**
**Інеса Яўгенаўна ПЕТРУСЕВІЧ**





**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 292-20-51



Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка: А. В. Бізункова
Камп'ютарны набор: Г. Я. Палякова
Стыльрэдактар: Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 12.11.2015 у 11.00
Ум. друк. арк. 3,72
Наклад — 1948.
Кошт у розніцу — 3900 рублёў

**Адкрытае акцыянернае таварыства «Чырвоная зорка»**
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
Зав. 1-ы Загарадны, 3,
220073, Мінск.

Заказ — 1497 г
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12